

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 7(90) Ліпень 2001 July Год выд. 9.


## ПЯЦЁРКА ДЭМАКРАТАЎ І КААЛІЦЫЯ «ЗА НОВУЮ БЕЛАРУСЬ» ЗАКЛІКАЕ НАРОД ГАЛАСАВАЦЬ СУПРАЦЬ ЛУКАШЭНКІ

*"Выканаўчая ўлада пад кіраўніцтвам А.Лукашэнкі рыхтуе фальсыфікацыю выбараў", гаворыцца ў сумесным звароце да беларускіх выбаршчыкаў аргкамітэту па стварэньню грамадзкага кааліцыйнага руху "За новую Беларусь" і "пяцёркі" патэнцыйных кандыдатаў на пост прэзыдэнта Сямёна Домаша, Міхаіла Чыгіра, Уладзімера Ганчарыка, Паўла Казлоўскага і Сяргея Калякіна. У сувязі з гэтым аргкамітэт кааліцыі "За новую Беларусь" і прадстаўнікі "пяцёркі" заклікаюць усе палітычныя і грамадзкія сілы аб'яднаць свае намаганьні з мэтаю зьмены правячага рэжыму.*

Як сьцьвярджаюць аўтары звароту, яшчэ да аб'явы даты прэзыдэнцкіх выбараў мясцовая ўлада *"фактычна сфармавала тэрытарыяльныя выбарчыя камісіі і ўключыла ў іхнія склады прадстаўнікоў пралукашэнкаўскі настроеных палітычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў, а таксама службовых асобаў выканкамаў і залежных ад іх кіраўнікоў прадпрыемстваў ці іхнія структурныя падразьдзяленьні".*

Прычым, як адзначаецца ў дакумэнце, падбор кандыдатаў у склады выбарчых камісіяў *"па прынцыпу асабістай адданасьці дзейнаму главе дзяржавы" ажыцьцяўлялі супрацоўнікі мясцовых упраўленьняў і аддзелаў КДБ. У выніку "ніводзін з 600 прадстаўнікоў дэмакратычных партыяў і грамадзкіх аб'яднаньняў, вылучаных у склады тэрытарыяльных камісіяў, у тым ліку шляхам збору подпісаў выбаршчыкаў, ня быў уключаны ў гэтыя рэгіянальныя фармаваньні".*

Аўтары пасланьня выказваюць апасеньні, што такога кшталту сытуацыя будзе складвацца і з фармаваньнем участковых камісіяў, якое мусіць быць скончана да 25 ліпеня.

У сувязі з гэтым аргкамітэт кааліцыі "За новую Беларусь" і прадстаўнікі "пяцёркі" заклікаюць беларускіх выбаршчыкаў – падтрымаць альтэрнатыўных Лукашэнку кандыдатаў, і прыняць актыўны ўдзел у прэзыдэнцкіх выбарах, у тым ліку, у вылучэньні сваіх прадстаўнікоў для кантролю за ходам выбараў і іхніх вынікаў; усе палітычныя і грамадзкія сілы – аб'яднаць свае намаганьні з мэтаю зьмены правячага рэжыму; членаў выбарчых камісіяў і прадстаўнікоў "вертыкалі" і мясцовых Саветаў – *"праявіць адказнасьць і разважлівасьць" і "сарваць каварныя задумы правячага рэжыму па захопу ўлады на чарговыя пяць гадоў"*

Акрамя таго, аўтары звароту запрашаюць іншых патэнцыйных прэтэндэнтаў на пост главы дзяржавы *"да актыўнага супрацьдзеяньня парушэньням прынцыпаў дэмакратычнасьці і адкрытасьці ў перыяд правядзеньня выбараў"*, паведамляе БелаПАН.
*************************



**Спадар Кастусь КАЛОША —**

**высока заслужаны беларускі царкоўны і грамадзка-палітычны дзеяч у Кліўлендзе, ЗША., дбайны працаўнік на ніве беларускага нацыянальнага адраджэньня, палымяны патрыёт свайго народу.**

**Дарагі Кастусь! Вітаем Цябе на бачынах нашае незалежнае газэты.**

## 18 дзён на выбар найлепшага

Да 15-га ліпеня "пяцёрка" патэнцыйных кандыдатаў назаве імя адзінага прэтэндэнта, які будзе супрацьстаяць на прэзыдэнцкіх выбарах Аляксандру Лукашэнку. Гэтае рашэньне пяцёра палітыкаў прынялі на закрытай нарадзе ў сераду. Камэнтаваць мэханізмы выбару адзінага прэтэндэнта патэнцыйныя кандыдаты адмаўляюцца.

Яшчэ да моманту рэгістрацыі кандыдатаў беларусы маюць шанец пачуць імя адзінага кандыдата ад апазыцыі, які будзе супрацьстаяць Аляксандру Лукашэнку на прэзыдэнцкіх выбарах. Сямён Домаш, Уладзімер Ганчарык, Міхаіл Чыгір, Павал Казлоўскі й Сяргей Калякін на закрытай нарадзе ў сераду пастанавілі, што адзіны кандыдат павінен быць вызначаны да 15 ліпеня. Да гэтай даты патэнцыйныя кандыдаты прыйшлі пасьля гадзінных кансультацыяў і некалькіх месяцаў чаканьня.
================================

## ПАЎТАРА МІЛЬЁНА ГРЭКА-КАТОЛІКАЎ МАЛІЛІСЯ РАЗАМ З ЯНАМ ПАЎЛАМ ІІ У ЛЬВОВЕ

У апошні дзень візыту Папы Рымскага Яна Паўла ІІ ва Ўкраіну у ранішняй грэка-каталіцкай Літургіі на львоўскім іпадроме ўдзельнічала рэкордная колькасьць вернікаў – каля паўтара мільёна. Сярод прысутных быў і прэзыдэнт Украіны Леанід Кучма.

Падчас апошняй Сьвятой Літургіі ў Львове Папа беатыфікаваў 28 украінскіх пакутнікаў за веру. 27 зь іх – гэта ахвяры камунізму.
Перад пачаткам Літургіі Папа блаславіў шлюб маладой грэка-каталічкі (унучкі рэпрэсаванага грэка-каталіцкага сьвятара) з праваслаўным. Сымбалічна, што загойваньне ранаў у праваслаўна-каталіцкіх адносінах ва Ўкраіне зьяўляецца адной з галоўных мэтаў візыту Папы.

Украіна – пераважна праваслаўная краіна. Католікаў тут усяго прылізна 10% насельніцтва (6 млн.), пераважная бальшыня якіх пражывае ў заходняй частцы краіны. Але, як адзначаюць міжнародныя аналітыкі, тут пасьля краху Савецкага Саюзу і стварэньня незалежнай украінскай дзяржавы адраджэньне каталіцызму ідзе больш хуткімі тэмпамі, чымся праваслаў'я. І таму некаторыя праваслаўныя лідэры абвінавачваюць католікаў у экспансіі, у спробах акаталічваньня праваслаўных.

Амэрыканская газэта Washington Post нават называе цяперашнія міжрэлігійныя адносіны ва Ўкраіне "рэлігійнай вайной", вайной, якая, на шчасьце, не прымае такіх скрайніх формаў, як міжканфэсійныя і рэлігійныя канфлікты на тэрыторыі былой Югаславіі...
================================

**Рэдактар газэты "Беларускі Дайджэст" вітае Трэйці Зьезд Згуртаваньня Беларусаў Сьвету – "Бацькаўшчына" і жадае яму выдатных і плённых посьпехаў!..**
*Н. Прускі*, ЗША



**BELARUSIAN DIGEST**
**Беларускі Дайджэст**

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.
Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364
E-mail: bdigest@iserv.net
Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# ДАЙСЦІ ДА БЕЛАРУСІ

**Дайсці да Беларусі** — *гэта настойлівае патрабаванне часу.* Як расіянам дайсці да Расіі, англічанам — да Англіі, французам — да Францыі, іспанцам — да Іспаніі, кітайцам — да Кітая, так і нам, беларусам і іншым народам, якія стала жывуць на беларускай зямлі, дайсці да Бацькаўшчыны. Як падрыхтавацца да такой справы? Як дасягнуць мэты?

**Спазнаваць свой край, свой народ** — *адна з заканамернасцяў усеагульнага развіцця, натуральная і звычайная справа ўсяго люду.* Спазнаем родны кут — спазнаем планету, бо пачатак усіх пачаткаў для кожнага зямляніна адлічваецца з месца нараджэння, прадаўжаецца на месцы дзейнасці. Гэтае зразумела са школы. Нішто на свеце не робіць жыццё такім утульным, як родны дом, родная зямля. З найбольшай глыбінёй пачуццё людзей да роднага краю выказана Францішкам Скарынам у яго вядомым выслоўі: "Понеже от прирожения звери, ходящие в пустыни, знають ямы своя; птици, летающие по возьдуху, ведають гнезда своя; рибы, плывающие по морю и в реках, чують виры своя; пчелы и тым подобная боронять ульев своих — токо ж и люди, игде зродилися и кормлены суть по бозе, к тому месту великую ласку имеють" (кніга "Юдзіф", с. 59).

**Дайсці да Беларусі** — *гэта светланосная ідэя.* Яна яднае людзей, гартуе іх дух, натхняе ў супольнай працы, радуе і прасвятляе. Каб знаходзіцца поруч з прадстаўнікамі іншых народаў, трэба быць адукаваным, ведаць гісторыю, духоўную спадчыну і культуру тых, ад чыйго імя выступаеш. Дасведчанае цягнецца да дасведчанасці, тады сумесна адшукваюцца ўзаемныя пункты судакранання ў гісторыі і культуры народаў, агульныя моманты ў іх развіцці — тады мацнее ўзаемапаразуменне, лягчэй і хутчэй дасягаецца згода.

У навуковых працах і літаратурных творах Беларусь паўстае шматаблічнай, шматаспектнай. Яна — нястомная, спрытная працаўніца і акуратная, руплівая гаспадыня, няскораная, рашучая гераіня і актыўная, мэтанакіраваная грамадзянка, дапытлівы, апантаны вучоны і таленавіты, самабытны творца. Беларусь нельга вызначыць адразу, адным словам. Яна ўваходзіць у нашае жыццё шматгранна, шматузроўнева і зліваецца ў адзіным пяшчотным абліччы — МАЦІ. Яе жыццёвая мудрасць, беражлівы клопат, далікатная падтрымка суправаджаюць нас на працягу жыцця. У які момант мы выразна адчуваем любоў маці, яе неадлучнасць ад нашага існавання? Калі яна супакойвае нас, гаротных у роспачы, абнадзейвае, выцірае слёзы? Ці тады, калі, ціха прыгаворваючы, каб супакоіць і сябе, выпраўляе ў дарогу, ці пазней, у час нашых настальгічных парыванняў?.. І ў кожнага з нас — адна маці, але яна — найлепшая з усіх на свеце. Так і той край, дзе мы нарадзіліся, працуем, — найлепшы.

А Беларусь — не проста зямля, на якой мы існуем, і не сумарнае ўяўленне ўсіх насельнікаў пра яе. Беларусь — гэта інтэгральна адметная структура людской супольнасці, і яна не ўкладваецца ў рамкі гомацэнтрычных даследаванняў і вымярэнняў. Беларусь — гэта частка планеты (адпаведна і Сусвету), якая развіваецца ў суладдзі з аб'ектыўнымі касмічнымі законамі і заканамернасцямі. Гэтую істотную акалічнасць мы павінны заўсёды ўлічваць у сваёй дзейнасці, каб за сваё жыццё хоць на ёт пасунуцца далей у духоўным развіцці, а не таптацца на сцежках, пракладзеных папярэднікамі.

**Дайсці да Беларусі...** *гэта значыць асэнсаваць трыадзінства прасторы*, у якой мы знаходзімся, выявіць яе гарманічную сувязь з нашай сутнасцю, яе зададзенасцю. Многім гэтае незразумела, бо раней не даводзілася ім весці гутарку пра духоўнасць прасторы, яе інтэлектуальную напоўненасць, вызначаць наканаванасць сваёй прысутнасці ў ёй. Не лёгка гэта рабіць, але патрэбна. І мы мусім ісці па гэтым шляху. З чаго пачаць? Дзе той пункт адліку? Якія арыенціры, вехі?

Шлях да Беларусі пракладваецца ўжо стагоддзямі. У казаннях Кірылы Тураўскага, у дзеяннях Еўфрасінні Полацкай, выказваннях дзеячаў культуры пазначаны кірункі да згоды людской, да ўзаемапаразумення. І ўсё ж для кожнага з нас, нават тутэйшых, шлях па роднай зямлі і да роднай зямлі пачынаецца па-свойму. З першага ўдыху гаючага паветра, ласкавай калыханкі маці, цёплых позіркаў родных і блізкіх, нацыянальных забаўлянак, жартаў, песняў... Гэта натуральны шлях спазнання роднай зямлі, шырокай дарогі ў свет. Аднак не ўсім беларусам выпала ў маленстве адчуць суладнасць роднай мовы, культуры і прасторы. Многім давялося выхоўвацца ў іншых умовах. Ды і палітычны вецер часта замятаў спрадвечныя бальшакі і сцежкі, па якіх дзеці, падлеткі выходзілі ў людзі. Нават у юнацкія і сталыя гады людзі з-за прыстасавальніцкіх памкненняў збіваліся з натуральна вызначанага шляху...

У прыродзе ўсё канкрэтнае. На фізічным узроўні гэта відавочна. Канкрэтныя і думкі (як бы цьмяна яны ні выказваліся), і пачуцці (яны заўсёды выяўляюцца ў канкрэтных дзеяннях, а ступень іх напружанасці адчувальная). Канкрэтны і шлях да Беларусі. Рана ці позна, а ісці па ім давядзецца. Праз гады ці стагоддзі мы складзём падручнікі, дапаможнікі для нашчадкаў, каб яны лягчэй і хутчэй крочылі гэтым шляхам і больш здзейснілі, дасягнулі. Так робіцца паўсюль на Зямлі. І мы не выключэнне. І прырода падказвае нам, натхняе на такую справу. Прыгадаем пачатак XX стагоддзя на Беларусі, дзейнасць нашаніўцаў. Творчасць імігрантаў, якія свядома і мэтаімкнёна ўспрынялі культурныя і навуковыя здабыткі беларускага народа, духоўнасць беларускай прасторы, — яскравы прыклад. Імёны Мікалая Байкова, Аляксандра Вазнясенскага, Івана Замоціна, Уладзіміра Пічэты, Мікалая Шчакаціхіна навечна застануцца ў беларускім летапісе. Заканамернасць руху па беларускім шляху натуральна ўспрымаюць татары, яўрэі і іншыя народы, якія здаўна жывуць на гэтай зямлі.

**Шлях да Беларусі** не вымяраецца сумай засвоеных звестак, разнастайнай інфармацыі пра тэрыторыю краіны, яе гісторыю і эканоміку, навуку і культуру. Гэта найперш *шматаспектнае спазнанне* Сусвету (прыроды) і яго найбольш канкрэтнай часткі — планеты і роднага краю, асэнсаванне іх фізічнага (матэрыяльнага) адзінства, выяўленне агульных законаў і заканамернасцяў; потым успрыманне іх духоўнай і інтэлектуальнай сувязі, узаемаўплыву.

Адзін з крокаў на шляху ведаў — *фармаванне ўяўлення пра* Беларусь *як дынамічную частку Сусвету і яе ўплыў на станаўленне асобы, на дзейнасць разнастайных людскіх супольнасцяў* (вывучэнне духоўнай і інтэлектуальнай спадчыны краіны ў гістарычным асвятленні, вызначэнне галоўных момантаў у выяўленні духоўнасці насельнікаў краю).

Аднак самым адметным, прыцягальным у навучанні застаецца працэс самаспазнання — *успрыманне* сябе *як істотнай часцінкі Беларусі, як неадлучнага элемента Сусвету* (прыгадаем выслоўе класіка "Чалавек — гэта свет"), адчуванне сваёй наканаванасці, пошукі магчымасцяў для самарэалізацыі ў роднай прасторы, складанне крытэрыяў для самакантролю.

Патрабаванні гэтых аспектаў (сусветнага, рэгіянальнага і асабістага) успрымання і асэнсавання рэчаіснасці зліваюцца ў адзіны комплексны падыход — сістэму крытэрыяў — да разгляду ўсіх з'яваў і працэсаў, што адбываюцца ў грамадзе. Дзеянні і паводзіны кожнага чалавека таксама ацэньваюцца з патрабаванняў 3-х аспектаў: як уплывае здзейсненае ім на развіццё самой *асобы* і той *грамады*, дзе ён знаходзіцца, на стан *навакольнага асяроддзя.* І не пакідаецца па-за ўвагай пры гэтым развіццё асноўных складнікаў (3-х узроўняў) сутнасці асобы, грамады і прыроды (Сусвету; у канкрэтным выпадку — навакольнага асяроддзя) — *фізічнага* (матэрыяльнага), *інтэлектуальнага* (разумовага, рацыянальнага) і *духоўнага*, іх узаемадзеяння.

У непасрэднай еднасці з гэтай сістэмай крытэрыяў ацэнкі сутнасці разнастайных рэалій выступаюць і *патрабаванні* "Закона Крыжа". Тут валадарыць Вечнасць. Яна выпрабоўвае ўсе аб'екты і з'явы рэчаіснасці на трываласць, вызначае тэрмін працяглласці іх існавання. Дынамічнае выяўленне Вечнасці — Час — актывізуе дзейнасць людзей, упарадкоўвае іх рух, спрыяе станоўчаму развіццю ўсяго ў прасторы. І разгортваецца гэта ў адпаведнасці з законамі Гармоніі, якія ў лучнасці з патрабаваннямі Характа перастварваюць Сусвет, удасканальваюць яго і асвятляюць.

**Дайсці да Беларусі** — гэта, перш за ўсё, **самавызначэнне**: хто я на гэтай Зямлі? на што скіравана мая дзейнасць? ці ўпрыгожаць мае справы, думкі, пачуцці прастору вакол мяне? Крытычныя, патрабавальныя адносіны да сябе, адчуванне і выяўленне свайго "крыжа", паважлівае стаўленне да імкненняў і занятку суайчыннікаў ствараюць спрыяльную для творчасці атмасферу. Суграмадзяне з разуменнем успрымаюць прыродную наканаванасць творцаў і частку іх матэрыяльных клопатаў бяруць на сябе. У грамадзе адбываецца дружалюбны зацікаўлены ўзаемаабмен вынікамі індывідуальнай дзейнасці, што спрыяе паступальнаму духоўнаму развіццю, змяненню дамінанты ў сацыяльнай культуры. З цягам часу кіраванне разнастайнымі людскімі супольнасцямі (спачатку вытворчымі калектывамі, потым дзяржавамі і блокамі дзяржаў, урэшце планетай) возьмуць на сябе духоўна-інтэлектуальныя цэнтры... Але да таго часу, калі любоў і ўзаемапаразуменне завалададарыць на зямной прасторы, нам трэба... дайсці да Беларусі...

...Новае тысячагоддзе бярэ разбег. Пачынаем прывыкаць да новага года, і ўсё ж шчымліва адгукаюцца ў душы паведамленні накшталт "у мінулым стагоддзі"... Летазлічэнне — вынік асэнсаванага ўспрымання рэчаіснасці, імкнення да ўпарадкавання. А калі ўдумацца: Зямля існавала і да нараджэння Ісуса Хрыста, а Сусвету наогул цяжка даць часавае вымярэнне...

Чым далей адлятаем у думках ад Зямлі, тым спакойней успрымаем розныя палітычныя перыпетыі на зямной паверхні, мудрэй вырашаем жыццёвыя праблемы, звычайныя рознагалоссі, усё больш і больш скіроўваем увагу на творчую працу, на плённую дзейнасць, прысвечаную роднаму краю.

**Міхась ШАВЫРКІН.**



# THE FRANCIS SKARYNA BELARUSIAN LIBRARY IN LONDON IS THIRTY YEARS OLD

*by Fr Alexander Nadson, Librarian*

Thirty years ago, on 15 May 1971, the Francis Skaryna Belarusian Library in London was officially opened by Professor Robert Auty from Oxford and blessed by Archbishop Domenico Enrici, Apostolic Delegate to Great Britain.

The idea of the library was born almost by chance on an autumn day of 1969 in London among the three Belarusian Catholic priests. During the after-lunch recreation one of them, Bishop Ceslaus Sipovich (1914-1981), Apostolic Visitor for Belarusian Catholics of Byzantine Rite, suddenly said: "Let's found a library." His proposal was received enthusiastically by two others, Father Leo Haroshka (1911-1977) and the present writer. It was unanimously decided that the Library should bear the name of Francis Skaryna (c.1485-1540), the first Belarusian printer and translator of the Bible.

The importance of a Belarusian library was understood by Belarusian communities abroad. From their experience they knew how little was known in the West about their country which was at that time part of the Soviet Union. Their generous support made it possible for Bishop Sipovich's idea to become reality sooner than originally planned. Another group interested in the Belarusian library were Western Slavic scholars who had difficulty to find material about Belarus.

The initial holdings of the library were books from private collections of Bishop Sipovich and Father Haroshka who was at that time Rector of the Belarusian Catholic Mission in England. Soon the number of books and other material began to grow thanks to gifts and acquisitions. Among the most precious early gifts was a copy of the *Lithuanian Statute* of 1588, a code of civil and criminal law of the Grand Duchy of Lithuania, of which Belarus formed part. It was printed in Belarusian which was the official language of that state.

At the present moment the Library's holdings consist of some 25 thousand titles in Belarusian and other languages, all dealing with Belarus, hundreds of periodicals, past and present, and an extensive collection of manuscripts and archive material. The most treasured possession, alongside with the *Lithuanian Statute*, are five books of Francis Skaryna's Bible, printed in 1517-18. There are rare first editions of works of many Belarusian writers, as well as some manuscripts, including that of the famous poem *Kurhan* (The grave mound) by arguably the greatest Belarusian national poet Ianka Kupala (1882-1942). Other manuscripts include the 17th century text of Pontifical Liturgy of St John Chrysostom with parallel Latin translation, and the 18th century Tartar *Tefsir*, or Koran with interlinear translation into Polish and Belarusian, written in Arabic script.

Attached to the Library is a museum, small in size but rich in relics of Belarusian history from the 15th century onwards.

Over one thousand scholars from Great Britain, Germany, Austria, Belgium, France, Italy, Poland, Russia, Ukraine, USA, Canada, Australia, Israel, Japan and, of course, Belarus made use of the Library's facilities for study and research. Among its distinguished visitors there have been several Belarusian writers, poets and artists. Meetings, lectures, art exhibitions etc. are held there on regular basis. During the last twenty years there were eight major international conferences on various Belarusian topics.

The Francis Skaryna Belarusian Library is an independent institution and is not in receipt of any grant or subsidy from public funds. Its existence has been made possible thanks to the generosity and understanding of its numerous friends and well-wishers. Let us hope that this generosity and understanding will continue in the new millennium in order to enable the Library to fulfil its role to be the window of Belarusian culture in the West.

The Library is open to all interested in Belarus, its people, history and culture. Admission is free on previous appointment with the librarian. *Address:* The Francis Skaryna Belarusian Library, 37 Holden Road, London N12 8HS. *Nearest Underground station:* Woodside Park (Northern Line). *Telephone/fax:* 020-8445 5358. *Internet:* http://skaryna.cjb.net. *E-mail:* belarusianlibraryinlondon@yahoo.com.



**Васіль Быкаў** (Бел. Час)

# Шлях з несвабоды

**Нядаўна адбыўся XIII з'езд беларускіх пісьменнікаў. На ім заслуханы і абмеркаваны справаздачны даклад аб дзейнасці творчага саюза, выбрана новае кіраўніцтва. Старшынёй Саюза стала Вольга Іпатава.**

**У рабоце з'езда, на жаль, не змог прыняць удзел народны пісьменнік Беларусі Васіль Быкаў. Але ён даслаў тэкст сваёй прамовы, з якой збіраўся выступіць перад калегамі. Ён быў агучаны з трыбуны з'езда. Прапануем яго вашай увазе.**

Свабода — найбольшая маральнафізічная каштоўнасць, дадзеная жывой істоце фактам яе нара-джэння. Усё жывое і карыстаецца тою каштоўнасцю, наколькі гэта мажліва ў заблытаным свеце арганічнага існавання. Апроч хіба чалавека. Чалавеку мала народжанай свабоды. Каб у поўнай меры спазнаць і адчуць яе неабходнасць, яму наканавана прайсці ў жыцьці праз хітрасплецены лабірынт прыгнёту, хлусні і несвабоды, а то і застацца ў адным з яго тупікоў. І там прызвычаіцца, змарнець, страціць свой прыроджаны дар свабоды дзеля мэты элементарнага біялагічнага існавання. Зрабіцца часткай натоўпу, грамадства, электарату — як і ўсе.

Але як быць чалавеку, калі ён — не як усе, і вылучаецца з масы сабе падобных, калі ён творца, што дзеіць паводле ўнутраных імпульсаў самавыяўлення? Як яму перадолець тую брутальную залежнасць ад сілы соцыюму, які нязменна нівелюе яго, — прабачце за пафас — Богам дадзены дар? Ці, можа, не трэба нічога пераадольваць, а падладзіцца, прыстасавацца, каб дамагчыся бесканфліктнага існавання. Як гэта робіць бальшыня зямных насельнікаў. Дзесяткі гадоў у нашых вушах гучыць нявольніцкая максіма: "Нельзя жить в обществе и быть свободным от общества". Што праўда, то праўда, — нельга быць свабодным у несвабодным грамадстве — не дадуць. Не дазволяць. Тыя, ад каго тое залежыць, натхняюцца не зманлівай ідэяй чалавечай свабоды, а рэальнаю ідэяй прыгнёту і сілы. І праўда, яны валодаюць немалой сілай, бо яны — заўжды —гурт. Іх шмат, а нас мала, і яны рэгулярна пагражаюць перацерці нас на лагерны пыл. Таму ёсць пра што думаць і чаго баяцца.

Мабыць, сапраўды, каб выжыць, варта згуртавацца, што робяць шмат якія істоты ў жывой прыродзе. Асабліва калі гурт мае ідэю — малаважна якую, добрую ці благую. Часам ідэяй робіцца інстынкт нацыі ці класа, ці якога гурта, і тады свет апынаецца перад імперскай, пралетарскай, нацысцкай ідэяй, якія заўжды каштуюць крыві. Апантаныя, г. зн. папулярныя ідэі заўсёды каштуюць вялікай крыві і рэдка здзяйсняюцца. Нават і святая сярод іх ідэя свабоды.

Але ці дужа якая ідэя патрэбна творцу, калі ягоная душа ўжо захоплена ідэяй іншага кшталту — ідэяй праўды і прыгажосці? Іншаму там месца няма, і ён — індывідуаліст. Усё значнае ў мастацтве спрадвеку ствараецца на грунце індывідуалізму. Спробы зарганізаванай мастацкай творчасці (тым болей літаратурнай) заўсёды сканчаліся фіяска і пакінулі кепскую памяць пра сябе. Творцы твораць штучны тавар, таму працуюць паасобку. Творчы альянс нават двух, калі кожны з іх геній, неверагодны. Толькі паасобку. Нават калі яны адзінадумцы, адзінаверцы, належаць да аднае партыі. Калектыўны элемент у мастацтве, несумненна, мае выключна дэструктыўны характар.

Праўда, наш час асаблівы — крывадушны і жорсткі, а што да мастацтва — разбуральны па сваёй сутнасці, толькі мы яшчэ не надта ўцямілі тое. Мабыць, цяпер належыць клапаціцца не пра росквіт — пра выжыванне і захаванне таго лепшага з нацыянальнай культуры, што гэтак брутальна бурыцца ўладай і часам. Пэўна, зрабіць тое лепей агулам. Але ці можна не разумець, што і бурыць выгадней агулам — усё адразу. Так дзешавей для ўладаў, якія звыклі ўладарыць не толькі над целамі, але і над душамі. З тае мэтай у нядаўнім мінулым яны стварылі партыю, калгасы, гулаг, каб заграбсці ўсіх адразу. І сагналі творцаў у «творчыя» саюзы, дзе ўзялі іх у «творчы» палон. Тое яны найбольш рабілі рукамі і клопатам саміх жа творцаў з ліку найболей таленавітых калабарантаў. Па прынцыпе славутага самаабслугоўвання: самі пішаце — самі сябе і саджайце.

Нашая літаратура быццам бы пакрысе выкараск-ваецца з таго інтэлектуальнага гулагу, з якога яшчэ не шанцуе выбрацца нацыі. Свабода рабочых і сялянаў патрабуе, як кажуць, шмат валютных інвестыцыяў, якіх няма. На зброю і паліцэйскае начынне інвестыцыі ёсць, а на свабоду для народу няма. Літаратуры ж не патрэбны інвестыцыі, нам патрэбны хіба дазвол. Але, аказваецца, дазвол на нашу свабоду каштуе яшчэ даражэй, чым дазвол на зямлю. Зрэшты, што да Беларусі, дык вынік аднолькавы — ні сяляне не маюць зямлі, ні пісьменьнікі не маюць свабоды. Хоць бы свабоды на родную мову. Нават на мяккі знак, каб не корчыць язык у роце ад ненатуральнага барбарскага вымаўлення.

Усё тое, ведама ж, несакрушальная сіла няволі, з якой мы звыкліся, зрадніліся, ад якой адступаць рызыкова і боязна. А галоўнае — не дазваляецца. Затое ад нас дамагаюцца іншага.

Можна зразумець тых нашых расейскіх калегаў з ліку дэмакратаў, канешне, якія нядаўна перажылі ўсё тое самае і цяпер памкнуліся да зманлівай, труднадасяжнай свабоды. Паяднаўшыся з беларусамі, яны маюць намер набыць дадатковы шанец на шляху да свабоды, кіруючыся ўсё той жа логікай — гуртам зручней. Але старая чэшская прымаўка кажа: не запускай млын, калі не маеш моцы яго спыніць. Ці маюць моц нашыя расейскія калегі годна распарадзіцца хоць бы ўласным лёсам? Ці не рэальней для іх, як і для нас, застацца рызыка страціць усё? Дзе гарантыя таго, што іхні, хай сабе самы высакародны, праект будзе гэтак жа высакародна скончаны? Надта тое сумніўна ў краіне, дзе не спыняюцца ганебныя войны, усюды ліецца кроў, нішчыцца свабода слова, а галоўнай дзяржаўнай ідэяй, калі паглядзець, робіцца ўзнёўлены нацыянал-чэкізм.

У нас і ўласнага няшчасця хоць адбаўляй — рушыцца эканоміка, народ даведзены да галечы. Дыктатура гвалтам нішчыць нацыянальную культуру і мову, але ж вы нам дапамагчы не можаце, шаноўныя калегі. Дапамагчы нам не можа ўжо ніхто — так глыбока завязлі мы ў багне хлусні і тыраніі, што ад нас адвярнуўся ўвесь свет. І ўсё ж нам, як тым зэкам, дужа непажадана трапіць з адной катоўні ў другую, асабліва калі перапынак між допытамі апынуўся такі кароткі.

Таму пачакаем і застанемся пры ўласных інтарэсах — непадлегласці і суверэнітэту — наколькі тое магчыма. Канешне, гэта не свабода, а толькі яе ілюзіі, якія, аднак, тояць кропельку надзеі. Як і ў Расеі таксама. Мабыць, кожнаму свой шлях да свабоды наканавана прайсці асобна. Усё ж індывідуалізм і ў гэткім абліччы — не самы горшы кірунак да яе. Можа, не найлепшы, але і не найгоршы. Прынамсі, у наш час усе астатнія горшыя, а ў аснове кожнай калектыўнай свабоды ляжыць свабода індывідуальная.



%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%

## Помнік Міколу Ермаловічу

**МАЛАДЗЕЧНА.** У горадзе паставяць помнік гісторыку, пісьменніку і літаратуразнаўцу Міколу Ермаловічу і ўсталююць мэмарыяльную дошку на доме, дзе ён жыў. Заснаваны фонд памяці М. Ермаловіча. Рашэнне пра яго ўтварэнне прынятае ў сталічным Доме літаратараў на вечарыне, прысвечанай 80-годдзю з дня нараджэння і гадавіне трагічнай смерці вучонага. Яе арганізавалі гарадскі культурна-асветны клуб «Спадчына» і Саюз пісьменнікаў. Мяркуецца стварыць настольны медаль з выявай гісторыка. Ім будуць адзначацца найбольш вядомыя прадстаўнікі нацыянальнай культуры…

**Мікола Ермаловіч адкрыў нам праўду**

Пачатак 90–х гадоў характарызаваўся спадзяваннямі на нацыянальнае адраджэнне. Мы прагна акуналіся ў цудоўныя глыбіні нашай славутай гісторыі ў творах В. Ластоўскага, У. Ігнатоўскага, К. Тарасава, А. Трусава і іншых. Але найбольш моцна ўражвалі хвалюючыя старонкі кніг М. Ермаловіча "Старажытная Беларусь" і "Па слядах аднаго міфа".

Яны адкрывалі праўду, як у VII стагоддзі славянскія плямёны засялялі нашыя мясціны. Як затым, перамешваючыся з балтамі (карэннымі жыхарамі гэтай зямлі) і асімілюючы іх, узнімалі нашыя продкі магутныя дзяржавы: Вялікае княства Полацкае, а з сярэдзіны XIII стагоддзя – Вялікае княства Літоўскае, Рускае і Жамойцкае.

Нарэшце, прага цікавасці да аўтара выдатных гістарычных твораў была шчасліва задаволеная: у адной з тэлеперадач выступаў М. Ермаловіч. Нас ягонае з'яўленне на экране літаральна ашаламіла: аказалася, гэтага цудоўнага вучонага мы часта бачылі ў электрычцы. Ён з Маладзечна амаль штодня ездзіў у Мінск у Нацыянальную бібліятэку, дзе працаваў над тэкстамі старажытных дакументаў і летапісаў.

9 жніўня 1995 года лёс звёў майго сына са знакамітым вучоным зямлі Беларускай. Кароткая сустрэча ўзрушыла і ўразіла на ўсё жыццё. Навуковец проста, шчыра і сціпла расказаў, чаму ён аддаўся вывучэнню нашай мінуўшчыны. – У савецкай гісторыяграфіі, – тлумачыў ён, – сцвярджалася, што ў сярэдзіне XIII стагоддзя, быццам бы, старажытная дзяржава наша была заваяваная Літвой. Але ў гістарычных крыніцах пра такую значную падзею – ні слова! Пра нязначныя, нават пра набегі манголаў у гэты час, – звестак хоць адбаўляй. Чаму так? Пачаў вывучаць летапісы і ўбачыў, што ніякага захопу нашай дзяржавы Літвой проста не было! Гэтая хлусня знарок высмактаная з пальцаў нядобрасумленных гісторыкаў, каб сцвярджаць, што Беларусь была ў літоўскім ярме, і яе Маскоўскае княства, а затым Расійская імперыя вызвалялі з цяжкай няволі. Інакш кажучы, гэтая лухта спатрэбілася гістарычным хлусам, каб апраўдаць захоп нашай Радзімы імператрыцай Кацярынай II. І вось тады і напісаў гістарычныя творы, заснаваны на старажытных тэкстах, а не на міфах і хітрамудрых выдумках невукаў ад гісторыі.

Калі сын папрасіў даць аўтограф, то Мікола Ермаловіч напісаў: "Шаноўнаму Юрасю Наркевічу з падзякай за яго ўвагу да маёй працы". Сусветна вядомы вучоны дзякуе маладому хлопцу за магчымасць адкрыць для сябе цікавыя глыбіні нашай славутай гісторыі. У гэтых словах падзякі – вялікая сціпласць сапраўды незвычайнага чалавека, мудрага і геніяльнага.

А праз пяць год – такая страшная бяда, незваротная страта... Загінуў вялікі сын Беларусі, які мільёнам суайчыннікаў адкрыў вочы на гістарычную праўду. Упэўнены, у сэрцы кожнага беларуса памяць пра Міколу Ермаловіча будзе гарэць шчырай падзякай за той грамадзянскі подзьвіг, які здзейсніў ён, каб адкрыць Вялікую Праўду нашай Мінуўшчыны.

*Аляксандр НАРКЕВІЧ, Вілейка.*

**************************************************

**КУРС ДОЛАРА**



# Зондэркаманда?

**Сьледчы з групы па справе Завадзкага Зьміцер Петрушкевіч заявіў, што ўлады перашкодзілі расьсьледаваньню магчымага саўдзелу камандзіра спэцпадразьдзяленьня хуткага рэагаваньня МУС Паўлючэнкі ў гучных злачынствах. Ён заявіў таксама, што міністар Навумаў добра знаёмы з падсьледным Ігнатовічам. Былы сьледчы Пракуратуры Алег Случак адначасова абвінавацiў Сівакова, Шэймана й Навумава ў стварэньні "эскадрону сьмерці", на сумленьні якога — забойствы Захаранкі, Ганчара, Завадзкага і яшчэ дзясяткаў чалавек. Два гэтыя інтэрвію былі сынхронна распаўсюджаныя па электроннай пошце.**

**Вось сутнасьць расказанага сьледчымі.**

**Петрушкевіч кажа,**

што, калі "распрацоўвалі" Ігнатовіча, галоўнага абвінавачанага па справе Завадзкага, сьледчыя дазналіся, што 13 траўня Ігнатовіч разам з Паўлючэнкам выкралі начальніка галоўнага рэвізійнага ўпраўленьня Міністэрства культуры Грачова, вывезьлі на Паўночныя могілкі, пагражалі яму сьмерцю за выкрыцьцё карупцыі ў менскім цырку. Грачоў апазнаў Паўлючэнку, тады пракурор Сьнігір даў згоду на ягонае затрыманьне. Дапытваў Паўлючэнку сам генпракурор Бажэлка, і быццам бы Паўлючэнка прызнаўся, што труп Завадзкага знаходзіцца ў раёне Паўночных могілак. Бажэлка напісаў запыт на імя Генпракурора Расеі, каб той даслаў у Беларусь тэхніку для пошуку трупаў у зямлі. Аднак праз тыдзень Лукашэнка адправіў Бажэлку й Мацкевіча ў адстаўку, паставіў пракурорам Шэймана, а Ўсьцінаву далі адбой, маўляў, неабходнасьць у тэхніцы адпала.

Сьледчым не дазволілі трымаць Паўлючэнку пад арыштам ані зрабіць ператрус у вайсковай частцы, дзе той працуе.

Петрушкевіч мае дакумэнтальныя пацьверджаньні гэтых сваіх словаў.

Сьледчы таксама сьцьвярджае, што міністар Навумаў добра знаёмы з Ігнатовічам і Малікам ды наведвае іх у сьледчым ізалятары, і што "калі казаць пра почырк учыненьня злачынства, дык тут адназначна прасочваецца сувязь і з выкраданьнем Захаранкі, і з выкраданьнем Ганчара і Красоўскага", але ніякіх відавочных доказаў, каб пацьвердзіць гэтую сувязь, ня мае.

**Случак**

Алег Случак — былы сьледчы. Справу Завадзкага ён вывучаў ужо не ў Пракуратуры, а ў складзе грамадзкай камісіі па разборы зьнікненьняў. Случак, быццам бы, мае наступную інфармацыю зь невядомых крыніцаў.

Шэйман у свой час даручыў Сівакову як кіраўніку Ўнутраных войскаў стварыць спэцкаманду, якая магла б выконваць любыя даручэньні, аж да забойства. Падбіраў туды людзей Паўлючэнка. Каманда адпрацавала на крымінальных аўтарытэтах схему "ідэальнага забойства" са зьнішчэньнем трупа й перакваліфікавалася на палітычных супраціўнікаў дзейнае ўлады. Усяго на сумленьні групы — да 30 забойстваў. Расходзіўшыся, яе ўдзельнікі пачалі займацца рабункамі й забойствамі з карысьлівых намераў.

Ніякіх дакумэнтальных доказаў сваёй вэрсіі Случак не прад'явіў. Зрэшты, яна й выключае іхную наяўнасьць. Даведацца пра існаваньне такой зондэркаманды можна было б толькі з асабістых прызнаньняў некага зь ейных удзельнікаў. Случак сьведчыць, што людзі, якія раскрывалі гэтую таямніцу, нечакана памiралі. Імёнаў памерлых ён, праўда, не падае. (Журналісты высьветлілі, што гаворка ідзе аб 26-гадовым амонаўцу Кабзару, сьведку па справе Ігнатовіча, і супрацоўніку менскага аддзелу па барацьбе з арганізаванай злачыннасьцю Французаву — абодва памерлі ад "сардэчнай недастатковасьці" сёлета.)

**Што выклікае недавер да словаў сьледчых**

Перш за ўсё тое, што два інтэрвію былі распаўсюджаныя разам. Першае грунтуецца на сур'ёзных дакумэнтальных абвінавачаньнях у адрас Зьмітра Паўлючэнкі, другое — на высновах з вусных інфармацыяў і лягічных пабудовах.

Тое, што яны зьведзеныя ў адно, сьведчыць, што сьледчыя імкнуліся да "газэтнага эфэкту". Чытача знаёмяць зь першым, абгрунтаваным, але малаістотным інтэрвію Петрушкевіча, каб ён паверыў тэксту, а пасьля — зь неабгрунтаваным, але істотным інтэрвію Случака. Гэта прапагандысцкі прыём.

Апроч таго, Случак і Петрушкевіч падаюць многа фактаў, пра якія яны маглі адно чуць ад іншых альбо здагадвацца. Адкуль шараговым супрацоўнікам пракуратуры ведаць, што сказаў Паўлючэнка Бажэлку падчас допыту? Ці маглі яны самі дазнацца, хто менавіта даручыў Сівакову стварыць "спэцгрупу"? Хто б распавёў ім пра гэткія рэчы? Хіба сам Сівакоў, Бажэлка або Мацкевіч.

Тое, што Петрушкевіч ды Случак маўчаць пра крыніцы інфармацыі, падрывае давер да іхных сьведчаньняў. Аднак не здымае пытаньняў да Паўлючэнкі і ягоных начальнікаў. Адсутнасьць якіх-кольвек зрухаў у пошуках Захаранкі й Ганчара вымушае верыць вэрсіі Случака пра "зондэркаманду".

**Чаго ня ведаў Петрушкевіч**

Адзін вядомы журналіст, які займаецца расьсьледаваньнем справы зьнікненьня людзей ад самага пачатку, схіляецца да вэрсіі, што й інтэрвію Петрушкевіча грунтуецца на інтуіцыйных высновах з фрагмэнтарнай інфармацыі. На думку гэтага журналіста ня выключана, што Завадзкі яшчэ жывы і што яго, жывога, пры перадвыбарнай патрэбе яшчэ дастануць з рукава тыя, хто зладзіў гэтае выкраданьне.

Кіраўнік грамадзкай камісіі па расьсьледаваньні гучных зьнікненьняў, былы кадэбіст Алег Воўчак сказаў у інтэрвію агенцтву БелаПАН, што бачыць за ад'ездам Случака й Петрушкевіча сьлед працы расейскіх спэцслужбаў. Застаецца дадаць, што Петрушкевіч са Случакам цяпер знаходзяцца за межамі краіны, іхныя сем'і застаюцца ў Менску.

Электроннаю поштай, са спазьненьнем, праўда, быў распаўсюджаны здымак Случака зь Петрушкевічам падчас інтэрвію і фатакопіі некаторых дакумэнтаў.

**Сівакоў уцікнуў адказу**

Адзіным, хто адгукнуўся на скандальныя абвінавачаньні, стаў былы міністар унутраных справаў Юры Сівакоў. Ён даў інтэрвію *"Белорусской Деловой Газете"*, *"Советской Белоруссии"* і *"Белорусской газете"* (паказальны выбар выданьняў). З гутаркі можна дазнацца, што Сівакоў варагуе з Шэйманам, Бажэлкам і Навумавым, але не даецца ніякага адказу на наступныя пытаньні:

— ці сапраўды Беларусь адмовілася ад раней заказанага спэцабсталяваньня для пошуку трупаў?

— ці вёўся разбор сьмерцяў Французава і Кабзара?

—што цяпер з Бажэлкам, дзе ён і чаму маўчыць?

— чаму былы старшыня КДБ Мацкевіч адмовіўся ехаць паслом у Югаславію і бавіць час у Маскве?

— чаму былі спыненыя сьледчыя мерапрыемствы што да Паўлючэнкі па справе Ігнатовіча?

І ўрэшце, дзе ж Захаранка? Дзе ж Ганчар? Дзе ж Завадзкі? Зрэшты, журналісты "БДГ" і "СБ" і не задаюць гэтых пытаньняў.

**Крымінальныя абвінавачаньні**

Калі Случак і Петрушкевіч маюць рацыю, словы пра "крывавы рэжым" з мэтафары робяцца жорсткай праўдай.

Улада адказала на абвінавачаньні маўчаньнем. Гэтае маўчаньне падрывае аўтарытэт Беларусі. "Лукашэнка камандаваў карным атрадам(???)", — такі, прыкладам, загаловак дае аналітычнаму артыкулу расейскае інтэрнэт-выданьне *gazeta.ru*. Працэс над Ігнатовічам мусіць быць адкрыты. Расьсьледаваньне адносін Паўлючэнкі да справы мусіць быць аднаўленае. Усе, каго падазраюць па справе Ігнатовіча, мусяць пакінуць свае пасады на час сьледзтва. Бажэлка й Мацкевіч мусяць быць сьведкамі на працэсе Ігнатовіча. Целы Французава й Кабзара мусяць прайсьці судмэдэкспэртызу. Лёс Ганчара, Захаранкі, Завадзкага. Красоўскага мусіць быць высьветлены. Калі гэта ня будзе зроблена, Лукашэнка ня мае права браць удзел у выбарах 9 верасьня. Калі гэтага ня будзе зроблена да 9 верасьня, гэта мусіць стаць першым крокам новага кіраўніка дзяржавы пасьля адыходу Лукашэнкі ад улады. **Барыс Тумар** (Н. Н.)

*******************************************

## Алег Волчак:
## "Уладам няма чым крыць"

Былыя супрацоўнікі пракуратуры Дзьмітры Петрушкевіч і Алег Случак, якія абнародвалі інфармацыю пра існаваньне ў Беларусі "эскадронаў сьмерці", знаходзяцца ў Злучаных Штатах і праходзяць працэдуру атрыманьня палітычнага прытулку. Бліжэйшым часам чакаюцца ня менш скандальныя заявы былога кіраўніка пракуратуры Беларусі Алега Бажэлкі, які павінен агучыць новыя факты зьнікненьня людзей у Беларусі. Пра гэта паведаміў кіраўнік цэнтру "Прававая дапамога насельніцтву" Алег Волчак, якому пагражаюць невядомыя.

Заявы былых сьледчых пракуратуры Дзьмітрыя Петрушкевіча (які ўваходзіў у сьледчую групу па зьнікненьні Завадзкага) й Алега Случака - толькі частка шырокай кампаніі, сьведкамі якой у хуткім часе могуць стаць грамадзяне Беларусі. "Ня выключана, - заяўляе Алег Случак -, што былы кіраўнік пракуратуры Алег Бажэлка й былы шэф КДБ Ўладзімер Мацкевіч, якія знаходзяцца ў Маскве, агучаць вядомыя ім факты ў справе гучных зьнікненьняў. Пытаньне толькі ў гарантыях іх бясьпекі".

А пакуль журналісты карыстаюцца толькі часткай дакумэнтаў, распаўсюджаных Петрушкевічам і Случаком. Яны заяўляюць, нагадаю, што да зьнікненьня людзей наўпростае дачыненьне маюць былы шэф Рады Бясьпекі, а цяпер Генпракурор Віктар Шэйман, а таксама былы міністар унутраных справаў, а цяпер супрацоўнік прэзыдэнцкай Адміністрацыі Сівакоў. Яны аддавалі загады на зьнішчэньне палітычных апанэнтаў Лукашэнкі, а выконваў гэтыя загады гэтак званы "эскадрон сьмерці", у склад якога ўваходзілі ўжо затрыманыя прадстаўнікі спэцпадразьдзяленьня "Алмаз" сп.сп. Ігнатовіч і Малік, а таксама кіраўнік спэцыяльнага атраду хуткага рэагаваньня (СОБР) Паўлючэнка. Трупы Завадзкага, Ганчара, Красоўскага й Захаранкі знаходзяцца ў раёне Паўночных могілак. Як сьцьвярджаюць былыя сьледчыя пракуратуры, злачынствы зьдзейсьняліся пісталетам для выкананьня сьмяротных прысудаў, які выдаваў асабіста Сівакоў.

Частка дакумэнтаў сьледзтва, што пацьвярджаюць словы Петрушкевіча й Случака, ужо зьявіліся ў мас-мэдыях. Алег Волчак абяцае, што другая частка мае зьявіцца пазьней. Цяпер Петрушкевіч і Случак праходзяць у ЗША працэдуру атрыманьня палітычнага прытулку. Свае публічныя заявы яны тлумачаць тым, што заставацца ў Беларусі ім было небясьпечна, бо тры чалавекі, якія праходзілі па справе Завадзкага, ужо раптоўна памерлі ад сардэчных захворваньняў - гэта супрацоўнік АМАПу Кобзар, сп. Французаў. Прозьвішча трэйцяга Волчак назваць ня здолеў.

У часе прэсавай канфэрэнцыі сп. Волчак паведаміў, што 28 траўня былыя сьледчыя пракуратуры на машыне легальна пераехалі беларуска-польскую мяжу. У Варшаве яны зьвярнуліся ў амбасаду ЗША, дзе й было запісанае вядомае інтэрвію. Пасьля вяртаньня ў Менск Алегу Волчаку пачалі пагражаць невядомыя, якія тэлефануюць на мабільны тэлефон і настойліва раяць пакінуць пошукі зьніклых асобаў.

**А.В.:** - В четверг мне позвонили. Это был мужской голос. Он не представился. Через слово был мат. Он сказал, что не нужно мне искать труп Завадского. Сказали, чтобы я не искал ни Гончара, ни Красовского, ни Захаренко - они негодяи. У меня на сотовом телефоне отобразился номер. Через полчаса мы обратились в РОВД. Я ездил в РОВД два дня спустя. Мне сказали, что у них не работает база, и телефон не могут "пробить".

Паводле словаў Волчака, у сілавых структурах

Беларусі існуе яшчэ адна, пакуль глыбока закансьпіраваная група, якая таксама зьбірае матэрыялы ў справе зьнікненьня людзей, аднак, хто гэтыя людзі, Волчак ня ведае. Сьледчыя з гэтай групы ўжо скантакталіся з расейскімі тэлеканаламі - і "ўцечка інфармацыі", хутчэй за ўсё, будзе з Масквы.

Беларускія ўлады ў паніцы, і пакуль ня ведаюць, як рэагаваць на факты, што хвалямі напярэдадні выбараў "накрываюць" расейскія й беларускія сродкі масавай інфармацыі. Першапачаткова ў пракуратуры заяўлялі, што Петрушкевіч выконваў у сьледчай групе тэхнічныя функцыі. Аднак, як высьвятляецца, Петрушкевіч ня толькі вёў сьледчыя мерапрыемствы, але яму нават было даручана захоўваць у сябе матэрыялы справы. Не пацьвярджаецца й інфармацыя пра нелегальны пераход мяжы. Алег Волчык заяўляе, што ўлады маўчаць, бо ім няма чым "крыць"...

Разам з тым, Беларуская асацыяцыя журналістаў зьвярнулася да міністра ўнутраных справаў Навумава з просьбай правесьці прэсавую канфэрэнцыю й даць публічныя тлумачэньні апублікаваных фактаў зьнікненьня людзей. (Р.Р.)

========================================

# Петрушкевіч і Случак знаходзяцца ў ЗША

Былыя супрацоўнікі пракуратуры Дзмітрый Петрушкевіч і Алег Случак атрымалі палітычны прытулак у Злучаных Штатах Амерыкі. Пра гэта карэспандэнту БелаПАН паведаміў прэзідэнт грамадскага аб'яднання «Прававаая дапамога насельніцтву» Алег Волчак. Паводле ягоных словаў, яны ўжо некалькі дзён знаходзяцца ў ЗША і 21 чэрвеня па адным з найбуйнейшых тэлевізійных каналаў краіны будзе паказана інтэрв'ю з імі.

Нагадаем, што 10 чэрвеня ў беларускія сродкі масавай інфармацыі было накіраванае інтэрв'ю Петрушкевіча і Случака. У ім яны расказалі аб расследаванні «гучных» крымінальных справаў. Такіх, як знікненне аператара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, у якім падазраецца група былога афіцэра спэцпадраздзялення «Алмаз» Валерыя Ігнатовіча. Яны заявілі аб датычнасці шэрагу буйных чыноўнікаў і кіраўнікоў сілавых структураў Беларусі да гэтага злачынства, а таксама да выкрадання лідэраў апазіцыі Юрыя Захаранкі, Віктара Ганчара, бізнесмена Анатоля Красоўскага і шэрагу іншых цяжкіх злачынстваў. Праз некалькі дзён, таксама па электроннай пошце, былі распаўсюджаныя копіі асобных дакументаў са справы аб знікненні Дзмітрыя Завадскага.

Пасольства ЗША ў Рэспубліцы Беларусь ніяк не пракаментавала паведамленняў аб прадастаўленні Дзмітрыю Петрушкевічу і Алегу Случаку палітычнага прытулку.

************************************

# ПАТРЫЯРХ УЗНАГАРОДЗІЎ СТАРШЫНЮ КДБ ОРДЭНАМ

Падчас візыту патрыярха Маскоўскага і Усея Русі Аляксія II шэраг супрацоўнікаў КДБ, у тым ліку старшыня КДБ Беларусі Леанід Ерын, атрымалі ўзнагароды Рускай праваслаўнай царквы. Леанід Ерын узнагароджаны ордэнам Роўнаапостальскага князя Уладзімера III ступені. Узнагароды ўручаны за тое, што Ерын *"з большай павагай і акуратнасьцю рэалізоўваў волю беларускага ўраду ва ўзмацненьні духоўных асноваў грамадзтва". **(Ад рэд.*** Сваіх калегаў забываць нельга...)

************************************************************

Патрыярх маскоўскі Алексій на ўкраінскі візыт Папы адказаў візытам у Беларусь. Вандроўка пачалася ў Берасьці, што, па афіцыйнай вэрсіі, як і ўвесь візыт, было зьвязана з 60-мі ўгодкамі нападу Нямеччыны на Савецкі Саюз, дзеля чаго праваслаўны галава наведаў Берасьцейскую крэпасьць. Ён таксама асьвяціў стары савецкі помнік "Вартавым межам". Далей ягоны маршрут пойдзе па Палесьсі, праз Янова, Пінск, Столін і Тураў да Гомеля, нібы ўзводзячы духоўную заслону ўздоўж украінскае мяжы. Старт зь Берасьця сымбалічны: з гораду Уніі і цэнтру рэгіёну, дзе жыве многа ўкраінскамоўных.

Патрыярх спрабуе проціставіць беларусаў неслухам-украінцам. Алексій правяраў і трываласьць сувязяў Беларусі з Маскоўскім патрыярхатам, а то, глядзіш, і насамрэч у якім 2004 г. Рымскі Папа зьявіцца ў Менску...

Галіна Пілатовіч

# У Беларусі сяляне ня маюць зямлі, а пісьменьнікі -- свабоды

Прынамсі, Дом гэты даўно ўжо не належыць самім творцам, і каб правесці якое-небудзь мерапрыемства, кіраўніцтва пісьменніцкай арганізацыі мусіць папрасіць на гэта дазвол у адміністрацыі найвышэйшай улады краіны. Уяўлення аб тым, што сапраўды адбывалася на з'ездзе, натуральна, шырокая публіка не мае, таму што з дзяржаўных СМІ даведацца не магла. Беларускае тэлебачанне не дало магчымасці паслухаць і пагля́дзець выступленні вядомых і паважаных у грамадстве літаратараў, даведацца, што яны думаюць аб сённяшнім жыцці і будучыні краіны. Вядучы інфармацыйнай праграмы запрасіў на пару хвілін у эфір пісьменніцу Вольгу Іпатаву, якая была абрана на з'ездзе старшынёй. Часу ў яе хапіла толькі на тое, каб пункцірна, агулам адказаць на пытанне вядучага аб тым, якія тэмы выклікалі найбольшую дыскусію на з'ездзе. Праўда, у сваёй кароткай прамове перад тэлегледачамі Вольга Іпатава ўсё ж выказала сваё шкадаванне фактычнай адсутнасцю пісьменніка ў грамадскім жыцці краіны. Памяркоўная ў апошні час Вольга Іпатава, між іншым, магла б сказаць, што пісьменнікаў цяпер стараюцца ўвогуле не запрашаць ні на ТБ, ні на радыё (а калі і запрашаюць, то толькі "правільных", паслухмяных, якія добра адчуваюць, куды дзьме вецер). Улічваючы ўсе гэтыя абставіны, мы мусім, хаця б і постфактум, інфармаваць вас, паважаныя чытачы, аб гэтым мерапрыемстве. Ад улады на яго прыбылі і заселі каменем у прэзідыуме віцэпрэм'ер Міхаіл Дзямчук, міністр культуры Леанід Гуляка, прадстаўнікі Дзяржкамдруку і Міністэрства адукацыі, а ад 500 літаратараў -- 364 майстры слова, многіх з якіх чытач не ведае ні па творах, ні па тварах. Яблыку ў залі не было дзе ўпасці, напэўна, чакалася, што адбудзецца бітва "правых" і "левых", з-за якой здарыцца раскол, ці хоць які-небудзь скандальчык, што скалане цяжкую і задушлівую атмасферу ў грамадстве. Пісьменнікі-дэмакраты ў асобе Ніла Гілевіча фактычна адразу расставілі акцэнты: "Ёсць выміранне нацыі, - канстатавалася ў слове, прамоўленым на адкрыцці з'езда, - у якой смерць нашмат перавышае народзіны. Ёсць ушчэнт здрапежаная, змучаная, абяскроўленая зямля, дабітая да ручкі сельская гаспадарка. Ёсць разваленая, кульгавая на абедзве нагі эканоміка. Ёсць дзікае і непрабуднае ўсенароднае п'янства. Ёсць, паралельна Чарнобылю фізічнаму, Чарнобыль маральны і духоўны. Ёсць татальнае панаванне бесцырымоннай хлусні на афіцыйным узроўні. Ёсць зняверанасць, разгубленасць і роспач мільёнаў людзей, якія пытаюцца: як жыць і як быць? Ёсць небывала ганебны палітычны курс на ліквідацыю суверэннай дзяржавы. Ёсць па-каланізатарску бязлітасны этнацыд і лінгвацыд адвечнага племя "тутэйшых" на яго адвечнай вотчыннай зямлі. Ёсць тое ж, як і сто гадоў назад, становішча, калі ты хочаш крыкнуць "ратуйце!", а цябе прымушаюць крычаць "дзякуй!".

На з'ездзе не прысутнічалі з'ехаўшыя з Беларусі Васіль Быкаў, Святлана Алексіевіч, Алесь Разанаў. Затое меў магчымасць звярнуцца да прысутных старшыня Саюза пісьменнікаў Уладзімір Някляеў, чые абавязкі апошнія пару гадоў фактычна выконвала Вольга Іпатава. Уладзімір Пракопавіч паведаміў прысутным, што калегі параілі яму не рабіць рэзкіх рухаў, якія маглі б прывесці да расколу арганізацыі. "Я гэтага не рабіў і не раблю, - сказаў ён. - Бо дакладна ведаю, каму гэта патрэбна..."

Пастаўлены ў даволі цяжкія ўмовы апальны паэт, які цяпер жыве ў Фінляндыі, тым не менш яшчэ раз выказаў сваю грамадзянскую пазіцыю. Ён зазначыў, што з сённяшнім рэжымам, з сённяшняй уладай можна страціць і незалежнасць, і саму Беларусь. Па яго словах, ніякіх кампрамісаў з уладай у творцаў і інтэлігенцыі ўвогуле быць ня можа, таму што гэта - улада татальнай маны.

Вельмі моцным аргументам у падтрымку дэмакратычнай пазіцыі беларускіх пісьменнікаў прагучала пасланне Васіля Быкава, якое ён даслаў з'езду. У ім народны пісьменнік разважае пра суадносіны калектыўнай і індывідуальнай свабоды. Па яго словах, каб уладарыць над людскімі целамі і душамі ў нядаўнім мінулым былі створаны партыя, калгасы, ГУЛАГ, а творцаў сагналі ў творчыя саюзы, дзе іх узялі ў творчы палон. "Дзейнічаў славуты прынцып самаабслугоўвання: самі пішаце - самі і саджайце... Свабода рабочых і сялянаў патрабуе, як кажуць, шмат валютных інвестыцый, якіх няма. На зброю і паліцэйскае начынне інвестыцыі ёсць. А на свабоду для народа - няма. Літаратуры ж непатрэбныя інвестыцыі, нам патрэбны хіба дазвол. Але, аказваецца, дазвол на нашу свабоду каштуе яшчэ даражэй, чым дазвол на зямлю". Зрэшты, робіць выснову В. Быкаў, "што да Беларусі, дык вынік аднолькавы: ні сяляне не маюць зямлі, ні пісьменнікі свабоды. Хоць бы свабоды на родную мову..."

У дысананс з гэтымі выступленнямі прагучалі прамовы так званых "агароднікаў", прыхільнікаў кампрамісных рашэнняў, адным словам -- "правільных" пісьменнікаў, якія ўсё яшчэ мараць аб савецкай уладзе, пры якой ім зусім някепска жылося і якую яны хацелі б рэанімаваць. Зусім мала энтузіязму ў прысутных выклікала выступленне намесніка міністра адукацыі Г. Дыляна, які доўга і нудна паведамляў аб поспехах айчыннай адукацыі, хаця ўсе ведаюць аб сапраўдным становішчы спраў. Яго нават паспрабавалі сагнаць з трыбуны, але не ўдалося - адказны чыноўнік сказаў, што ён знаходзіцца тут па доўгу службы, а таму мусіць агучыць увесь тэкст. Адбубнеў, таксама неабласканы прысутнай публікай, сваю справаздачу і міністр культуры Л. Гуляка, якому, да таго ж, давялося агучыць і "прывітальнае слова" прэзідэнта. У ім, у прыватнасці, кіраўнік краіны спрабаваў запэўніць аўдыторыю, што дзяржава і надалей будзе падтрымліваць таленавітых творцаў і ствараць умовы для іх плённай працы. Побач з імёнамі класікаў беларускай літаратуры ў лукашэнкаўскім пасланні прагучала і імя Васіля Быкава, што было ўспрынята скептычна, як чарговы бессэнсоўны рэверанс улады перад прэзідэнцкімі выбарамі (агульнавядома, якія нецярпімыя адносіны ў дзяржаве склаліся да гэтага празаіка і іншых пісьменнікаў-іншадумцаў).

Як праграмнае было ўспрынята і выступленне Вольгі Іпатавай, у якім яна казала аб няўважлівым стаўленні ў дзяржаве да майстроў слова, шальмаванні імёнаў найбольш вядомых дзеячаў нацыянальнай літаратуры, занядбанні беларускай мовы, ігнараванні ўладай пазіцыі Саюзу пісьменнікаў у адносінах да сучасных грамадска-палітычных працэсаў і перспектыў развіцця краіны.

Работа з'езда праходзіла даволі канструктыўна, у спакойнай атмасферы, якую час ад часу парушаў вар'яцкімі выхадкамі небезвядомы паэт Анатоль Сыс, які, напэўна, зусім страціў розум ад уласнай геніяльнасці. Але яго ў рэшце рэшт выкінулі з залы, пасля чаго адбыліся выбары старшыні Саюза пісьменнікаў. Былі названыя ў якасці кандыдатаў некалькі чалавек - сярод іх А. Бутэвіч, Г. Далідовіч, А. Пісарык, В. Іпатава, М. Мятліцкі, М. Скобла, С. Законнікаў, М. Чарота, Г. Бураўкін. За выключэннем В. Іпатавай і М. Мятліцкага ўсе астатнія ўзялі самаадвод. Старшынёй значнай большасцю галасоў была абраная В. Іпатава. Дарэчы, гэтае рашэнне было прынята шмат у чым дзякуючы аўтарытэту В. Быкава, які даслаў тэлефанаграму на з'езд, дзе выказаўся адназначна за Вольгу Іпатаву: "У тых складаных умовах, якія зараз пануюць у СП і ў краіне наогул, я лічу мэтазгодным і правільным, калі СП узначаліць Вольга Іпатава, якая сваім папярэднім удзелам у кіраўніцтве засведчыла адданасць інтарэсам айчыннай літаратуры і нацыянальнай культуры...".

====================================



***Рэцэнзіі:***

## Arnold McMillin. **Belarusian Literature in the 1950s and 1960s.**

**Release and Renewal**. Böhlau Verlag: Köln, 1999. 315 p.

Прафэсар Арнольд Макмілін – даўгагадовы дасьледнік беларускай літаратуры, аўтар ведамай англамоўнай "Гісторыі беларускай літаратуры ад ейных пачаткаў да сучасных дзён", апублікаванай у 1977 годзе.

Макмілінава новая кніга – першы том з двух заплянаваных -- прысьвечаная беларускай літаратуры канца 1950-х і 1960-х гадоў – пэрыяду, як ён яго назваў, "паслабленьня /кантролю/ й адраджэньня". Сваю новую публікацыю аўтар прысьвяціў жонцы Сьвятлане, "якая правяла некалькі шчасьлівых гадоў дзяцінства ў Беларусі".

У кнізе разьдзелы: "Гады пяцідзесятыя – выхад з пацёмкаў"; "Паэзія шасьцідзесятых – традыцыя й наватарства"; "Проза й драма шасьцідзесятых – час надзеі". У межах кожнага разьдзелу даецца агульная характарыстыка пэрыяду ды азнаямленьне з творамі паасобных аўтараў. Асобна выдзеленая тэма жыцьця й сьмерці ў творах некаторых паэтаў (С. Блатун, Л. Якубовіч, А. Сербантовіч, А. Наўроцкі). Сярод разгледжаных паэтаў-шасьцідзесятнікаў адсутнічае чамусьці адзін з найбольш зыркіх – Рыгор Барадулін, прозьвішча якога згадваецца адно мімабегам.

У разьдзеле пра прозу й драму прадстаўленыя – аўтар па аўтары – творы на ваенную, вясковую й гістарычную тэмы. Асобныя разьдзелы прысьвечаныя творчасьці І. Мележа, В. Быкава, І. Пташнікава й У. Караткевіча. Нарыс пра Быкава, між іншага – добра абгрунтаваны аргумэнт на карысьць нобэлеўскай прэміі пісьменьніку, пра заслужанасьць якое Быкавым шмат пішацца апошнім часам.

Праф. Макмілін адзначае ўласьцівасьці мовы разгляданых пісьменьнікаў, іхны стыль, вобразнасьць, падабенства й арыгінальнасьць, выяўляючы гэтым добрае веданьне і беларускае мовы, і літаратурнага матарыялу. Не абышлося ў кнізе, на жаль, безь некаторых карэктарскіх недаглядаў, але яны не абніжаюць вартасьці дасьледаваньня. Кніга праф. Макміліна заслужана атрымала высокую ацэнку ў квартальніку асацыяцыі амэрыканскіх славістаў Slavic Review (No. 2, Summer 2001).

Хацелася б тут зрабіць адну заўвагу. Дасьледнік даў востра адмоўную характарыстыку, у сэньнсе ідэялягічным, творчасьці Генадзя Бураўкіна. Аднак, думаецца, нельга вылучаць з такой характарыстыкай творчасьць аднаго аўтара, калі ўся беларуская літаратура таго часу была прасякнутая данінай афіцыйнай ідэялёгіі. Праўда, у творчасьці аднаго аўтара гэтае даніны было больш, у другога менш – гэта залежала ад грамадзянскага тэмпэрамэнту таго ці іншага пісьменьніка. Зьмена ідэйнай накіраванасьці ў літаратуры прыйшла пасьля ўпадку савецкага таталітарызму ды прыходу лібэральнейшага палітычнага рэжыму. Генадзь Бураўкін 90-х гадоў даў ход тэй праўдзівай сваёй Беларусі, якая была ў яго пад сэрцам ўвесь час, і гэтую акалічнасьць трэба ўлічваць у агульнай ацэнцы літаратурнай спадчыны паэта, у творах якога з савецкага пэрыяду ці мала тонкай лірыкі й беларускага патрыятызму.

Што да абранага праф. Макмілінам адрэзку часу, дык трэба сказаць, што ў кантэксьце пэрыядызацыі беларускай літаратуры канец 1950-ых і 1960-ыя гады нічым асаблівым ня розьніліся, скажам, ад 1970-ых гадоў. Сам дасьледнік змушаны часта выходзіць паза рамкі абранага пэрыяду, каб прадставіць творчасьць таго ці іншага аўтара. Але ён паабяцаў нам яшчэ адзін том. Праф. Макмілін працуе далей над вывучэньнем беларускай літаратуры наступных гадоў, улучаючы ў кола сваіх зацікаўленьняў і творчасьць эміграцыйных паэтаў. Апошнім часам апублікаваныя два ягоныя досьледы: адзін у канадзкім славістычным часапісе Canadian-American Slavic Studies (Nos. 2-4, 1999) пад заг. "Думкі пра Радзіму ў замежжы: тры беларускія паэты ў эміграцыі" (Н. Арсеньнева, Л. Геніюш і М. Сяднёў), а другі ў менскім часапісе "Нёман" (№ 1, 2000) пад заг. "Вяртаньне. Фэнамэн Натальлі Арсеньневай". Гэтыя й іншыя матарыялы, трэба думаць, увойдуць у ягоную наступную кнігу, у завяршэньні якой яму трэба пажадаць як найбольшай удачы.

*Янка Запруднік* (ЗША).

# УСТРЫВОЖНАЯ НАДЗЕЯ

**Генадзь Бураўкін.** ПАМІЖ ЗОРКАЙ І СВЕЧКАЙ. Вершы. Выдавецтва Бацькаўшчына, 2000. 160 ст.

Генадзь Бураўкін – паэт-лірык і паэт-грамадзянін. У вершах новага зборніка, у якім паўстае перад намі паэт пэрыяду 1995-1997 гадоў -- цяжкіх гадоў нацыянальнае драмы -- знаходзім больш, чымся ў ягоных ранейшых творах, асэнсаваньня індывідуальнага й народнага жыцьця, грамадзянскіх матываў, у тым ліку эмацыянальнага асуджэньня нядбайнасьці й здрады.

Назоў зборніка – "Паміж зоркай і сьвечкай", можна падумаць, пераклікаецца з назовам апошняй кнігі паэзіі Натальлі Арсеньневай – "Паміж берагамі". Падобна як паэтка бачыць у рацэ свайго жыцьця "другі ўжо бераг шэры", які яе "прыйме на спачынак", Бураўкін усьведамляе няўхільнасьць прыходу "самотнай пары", "калі зорка згасае, а сьвечка гарыць". Дажыўшы да "асеньняй пары" – кніга пачынаецца разьдзелам "Мая асеньняя пара" – паэт глядзіць усё ж аптымістычна наперад, як гэта відаць зь вершу, прысьвечанага Рыгору Барадуліну: "Лёс яшчэ ў наш дом зямны, часовы // Не паклаў апошняга вянца. // І ў сьцяжынкі нашай верасовай // Не відно пакуль яшчэ канца..." Дай Божа абодвум!..

Тым ня менш, жыцьцёвая стома дае сябе адчуць. Паэт прызнаецца: "Я стаміўся ад сустрэч і спрэчак, // Ад папер, // Паседжаньняў, // Прамоў." І думка пра канец зямнога шляху ўваходзіць уладна ў канву ягонага сьветаадчуваньня: "Пакуль жывы, // Турбуйся аб жыцьці, // Але пра сьмерць не забывай таксама"; "Я супакоена памру. // Ва ўсякім разе так хацеў бы"; "Скончыцца жыцьцёвая дарога, // Згасьне боль // І выветрыцца сум".

Як і ў бальшыні ягоных сучасьнікаў, жыцьцё Бураўкіна прайшло ў складаных абставінах, у якіх ня было й няма адчуваньня поўнае свабоды. Свабода недзе за даляглядам, далёка. Магчымасьць адчуць яе бачыцца яму адно пасьля таго, як патухне зорка ды запаліцца сьвечка -- толькі тады можна будзе "ціха ўзьняцца ў вышыню, // Дзе прахалода – асалодай, // дзе, можа быць, упершыню // Душа напоўніцца свабодай..."

Узмацнілася ў паэта адчуваньне Бога. Ягоную душу, калі ён бярэцца за пяро, узрушае "боскі халадок"; ён просіць Бога даравать яму грахі; прызнае, што "ад Бога бласлаўеньне меў"; што словы да яго прыходзяць часамі "ў белых фраках Богавых паслоў". Тым ня менш, разам з адчуваньнем вечнасьці ён засяроджаны на надзённых патрэбах жыцьця. Як ён кажа, "пакуль жывы, турбуйся аб жыцьці". І ён турбуецца. Яго трывожаць шмат якія зьявы сучаснасьці, а найбольш тыя, што перашкаджаюць "на Радзіме Радзіму знайсьці". Купалаўскі "забраны край" у Бураўкіна – "абкрадзены край", "зьнядужаны кут", краіна "крумкачоў" ды "чорнай здрады". І калі хто шукае адказу на пытаньне пра адказнасьць за такі стан, дык паэт уладна кажа яму: "Ты ў сябе запытайся сурова, // Ты сабе абвясьці свой прысуд..." І сапраўды: вечнае шуканьне вінаватых паза сабою толькі дэмабілізуе ўласныя сілы супраціву й творчага падыходу да грамадзкіх і нацыянальных справаў.

Асобны разьдзел зборніка, пад загалоўкам "Душа баліць", напоўнены грамадзянскай лірыкай, поўнай роспачнага болю, бунту, але адначасна й веры ў перамогу над "крумкачамі" ды "піратамі".

Паэт малюе сучасную сцэну:

*Чорнай навалаю коціцца зьверху*
*Гвалт нябывалы,*
*Разьятраны вэрхал.*
*У кіраўнічых суровых прамовах*
*Бэсьціцца зноў беларуская мова:*
*Быццам бы наскія словы ня здатны*
*Выказаць талент і розум выдатны.*

І прадказвае:

*Перажыла наша родная мова*
*І Бэкендорфа, і Мураўёва,*
*Панскія зьдзекі,*
*Чэкісцкія чысткі,*
*Рогат імпэрскі,*
*Вырак фашысцкі...*

*Тых,*
*Што з трасянкаю ў галаве,*
*Перажыве!..*

Паэт верыць, што купалаўская "Вольная дума" яшчэ "празьвініць трыумфальнаю песьняй", і ўпэўнена кажа нам : "Верце, // Мы можам яшчэ абудзіцца // І прыбяром ад дарогі карчы. // І прынясе нам сьвятло зараніца. // І пахаваюцца ў змрок крумкачы...". Грамадзянскае пачуцьцё паэта часта апранаецца ў сатыру, а то й сарказм, як гэта можна праілюстраваць звароткай зь вершу "Папытайце Філарэта..." (пад адрасам так званых "праваслаўных атэістаў", да якіх залічае сябе й галоўны зь іх -- Рыгор Лукашэнка).

*А цяпер парыў інакшы*
*Зачмурае галаву.*
*І былыя слугі нашы*
*Пацягнуліся ў царкву,*
*Бо яны і ў часе гэтым*
*Вельмі хочуць цараваць*
*І ўладыку Філарэту*
*Лезуць рукі цалаваць.*

Чырвонай ніткай праз новыя вершы Генадзя Бураўкіна праходзіць таксама адчуваньне й разуменьне ўстойлівых законаў жыцьця -- штодзённага быту чалавека й гістарычнага шляху народу. Ён пяе таксама гімн прыгажосьці прыроды роднага краю, да якога цягнецца з асаблівай сілаю ягоная душа пасьля далёкіх вандровак ды жыцьцёвых згрызотаў.

Бураўкінава ліра адзначаецца строгай рытмічнасьцяй і багатай рыфмай. Гэта робіць лёгка чытабельным ягоны сьвежа надзённы зборнік вершаў. І сёньня, у час "крумкачоў" і "дзяржаўнага нядбальства", калі зьняверанасьць падкошвае сілы для самаабароны й самасьцьверджаньня, беларускаму грамадзтву вельмі патрэбны голас веры ў здольнасьць абараніцца й наладзіць нармальнае жыцьцё. Вось чаму паэту належыцца ўдзячнасьць за ягоную шчырасьць, разважлівасьць ды зычны голас, якімі напоўнены зборнік "Паміж зоркай і сьвечкай".

**Янка Запруднік (ЗША).**

*********************************************

# Канваліі Радзімы: Беларуская ліра Анатоля Бярозкі

Паэтычнае імя Анатоля Бярозкі засьвяцілася на літаратурным небасхіле Беларусі ў 30-я гады, упрыгожыла старонкі заходнебеларускага друку і нібы растварылася ў бязмежным і катастрафічным для лёсаў прыватных людзей космасе грамадзка-гістарычнага жыцьця XX стагодзьдзя. Нямала часу пройдзе пакуль у далёкім заакіянскім горадзе Мантэсэла ў амэрыканскім штаце Мінесота ізноў зьявіцца ў 1989 годзе гэтае імя на тытуле невялічкай, сьціплай, але з густам афармленай паэтычнай кніжкі з простай назвай "Адзінаццаць вершаў" — "Eleven Poems", якую выдаў, як пазначана ўнізе, Мацей Рэпкаў Смаршчок з паралельным тэкстам на ангельскай і беларускай мовах. Толькі вузкае кола людзей ведала, што выдавец і аўтар гэтай кнігі — адна і тая асоба. Гэта было так і ня так, бо Анатоль Бярозка як паэт заставаўся ў той далёкай даваеннай рэчаіснасьці на старонках віленскага друку 1933—39 гг. Мацей (Мітрафан) Смаршчок стаў сучасным знакамітым амэрыканскім лекарам, заслужаным доктарам мэдыцыны, імя якога нададзена аднаму з карпусоў мэдыцынскага комплексу ў г. Мантысэла. Лёс склаўся так, што з першай ваеннай хваляй эміграцыі ён апынуўся ў Нямеччыне, а затым у Злучаных Штатах Амэрыкі, працягнуў там лекарскую практыку, стаўшы аўтарытэтным прафэсіяналам-мэдыкам, вызначыўшыся сваёй гуманітарнай актыўнасьцю, дапамогай чорнобыльскім дзецям. І ўсё-ж паэта і лекара яднаў адзіны чалавечы лёс, падобны да лёсу славутага Франьцішка Скарыны, які таксама злучаў у сваёй асобе гуманіста-кніжніка, што дбаў аб духоўным здароўі людзей, і доктара, што лекаваў іх цялесныя немачы, будучы адарваным ад бацькаўшчыны вандроўнікам-пілігрымам. Мусіць, Скарына прадвызначыў яшчэ тады, у сваім часе, "архэтып" адукаванага і адухоўленага беларуса, талент якога застаецца не запатрабаваным на бацькаўшчыне, хоць яна заўсёды прысутнічае ў яго сэрцы, думках, справах. Імя Анатоля Бярозкі—Мацея Смаршчка з сёньняшняга гледзішча самавіта і годна ўпісваецца ў шэраг бліскучых імёнаў беларускіх асьветнікаў-гуманістаў XX стагодзьдзя.

У даваеннай Вільні малады паэт Анатоль Бярозка прыносіў у рэдакцыю саліднага тагачаснага часопіса "Калосьсе" свае вершы, рэдактар Янка Шутовіч праглядаў іх і даваў у друк, а будучы лекар Мацей Смаршчок у гэты-ж час студэнтам наведваў заняткі на мэдычным факультэце Віленскага ўнівэрсытэту. Нарадзіўся ён 19 лютага 1915 году ў вёсцы Падлесьсе, былога Баранавіцкага павету,

**У штодзённай мітусьні і дрымоце, — не забывайце дапамагаць нашай газэце!.**

цяпер Ляхавіцкага раёну, Брэсцкай вобласьці. За плячыма яго ўжо была пачатковая школа ў роднай вёсцы і ў Ляхавічах, вучоба ў баранавіцкай гімназіі і ліцэі. Сапраўднае імя маладога чалавека было настолькі калярытным, што найлепшы псеўданім проста цяжка было прыдумаць — яно гучала амаль як Мацей Бурачок (нездарма-ж, мусіць, у пазьнейшы час, стаўшы ўласным выдаўцом, ён дадаў да прозьвішча прыдомак Рэпкаў-, які яшчэ больш асацыятыўна зблізіў яго з другім багушэвічаўскім псеўданімам Сымон Рэўка з-пад Барысава). Аднак у творчых пошуках віленскага пэрыяду, відаць, не багушэвічаўская будзіцельная паэтычная традыцыя прываблівала маладога паэта, а эстэтычныя вяршыні мастацкай палітры Максіма Багдановіча з яго ўстаноўкай на "чыстую красу", на выяўленьне непрыкметнага, але незвычайнага характва рэчаў і зьяў, сярод якіх найпрыгажэйшай, хоць някідкай і гаротнай, здавалася Бацькаўшчына. У сыстэме такіх мастацкіх каштоўнасьцяў найбольш удалым было-б літаратурнае імя адпаведнага эстэтызаванага



кшталту, якому А. Бярозка, здаецца, прыемна пасавала. Эстэтызацыя рэчаіснасьці становіцца яго асноўнай мастакоўскай задачай, таму бясспрэчна блізкай і прывабнай была для яго таксама вытанчанасьць паэтычнай фразы ў Ігната Канчэўскага і сугучныя яго настроям чульліва-прыгожыя тоны ліры Натальлі Арсеньневай. Менавіта іх абодвух называлі найлепшымі паэтамі з тых, хто яшчэ заставаўся ў Вільні ў канцы 30-х гадоў. Так, у прыватнасьці, пісала віленская газэта хрысьціянскіх дэмакратаў "Крыніца": Другім выбітнейшым (пасьля Н. Арсеньневай — І. Б.) беларускім літаратарам, які астаўся ў Вільні, — ёсьць А. Бярозка. Бярозка студ'юе на Віленскім унівэрсытэце.Канчае мэдыцынскі факультэт, пры гэтым факультэце адначасна працуе як асыстэнт. Паэт паходзіць з Баранавіцкага павету, які цяпер далучаны разам з усёй Заходняй Беларусьсю да Савецкай Беларусі". Гэта былі першыя друкаваныя біяграфічныя зьвесткі пра паэта і адначасова сьведчаньне, што некаторы час пасьля ўз'яднаньня Беларусі ён яшчэ заставаўся ў Вільні. Пасьля 1939 году публікацыі твораў і ўсякія зьвесткі аб Анатолю Бярозку зьнікаюць са старонак віленскай прэсы. Гэта была характэрная дата, якая для многіх беларускіх нацыянальных дзеячаў стала пагранічччам паміж жыцьцём і сьмерцю: сталінскія карныя органы палявалі на сьвядомую і актыўную заходнебеларускую інтэлігенцыю, дабраўшыся да яе пасьля верасьнёўскага "вызваленчага" паходу. Зусім верагодна, што такі лёс мог напаткаць і А. Бярозку. Гэтая містыфікацыйная вэрсія нават была выказана ў беларускім друку: "Пасьля верасьня 1939 г. сьляды А. Бярозкі губляюцца. Яго расшукваў НКУС. Сябра Анатоля Мацьвей Смаршчок, які жыве ў ЗША, лічыць, што Анатоль Бярозка, мабыць, загінуў у засьценках НКУС, а яго прах знаходзіцца ў Курапатах". Так, як бачна, са спасылкай на самога аўтара ў друку замацоўваўся міф аб паэту і выдаўцы як аб дзьвюх розных асобах, і сваю трагічную ноту ўносіла ў яго адкрытая тады, для грамадзкасьці Зянонам Пазьняком тэма Курапатаў — месца злачынных сталінскіх расстрэлаў ля Менску. Такая вэрсія ў беларускай даваеннай рэчаіснасьці была цалкам магчымай і жудаснай у сваёй штодзённай звычайнасьці, бо рэпрэсіі з канца 20-х гадоў становіліся ўжо масавай зьявай: карная машына набірала абароты, і ёй было патрэбна, каб "ворагаў народу" станавілася ўсё больш. Для А. Бярозкі ў той час можна было таксама прыдумаць "віну" — ён, напрыклад, не ўслаўляў у сваіх творах савецкую рэчаіснасьць, а па сьветапоглядзе быў блізкі да кола хрысьціянскіх дэмакратаў, якіх не шанавалі ў савецкай Беларусі прынамсі да 90-х гадоў. Сьветапоглядны накірунак Бярозкі становіцца зразумелым з рэплікі Максіма Танка, якую той прыводзіў у сваіх успамінах: "У рэдакцыі "Калосьсе" Я. Шутовіч паказваў мне некалькі вершаў А. Бярозкі. Мне здаецца, з яго вырас-бы цікавы і сур'ёзны паэт, калі-б мог вызваліцца з-пад апекі сваіх духоўных айцоў...". Вядомы сваёй камуністычнай арыентацыяй, савецкі паэт Танк нават і блізка не дапускаў думкі, што ў рэчышчы іншага сьветаўспрыняцьця можа адбыцца цікавы і сур'ёзны творца. І ці не шаноўнага рупліўца-асьветніка ксяндза Адама Станкевіча, які спазнае сталінскі ГУЛАГ і загіне ў ім, меў на ўвазе клясік сацрэалізму, калі пісаў пра "апеку духоўных айцоў"? Ён нават ня мог уявіць, што такая апека была для А. Бярозкі і дзесяткаў іншых заходніх беларусаў не заганай, а шчасьцем!

А таксама шчасьцем было тое, што паэт усё-ж не трапіў у крывавыя рукі энкавэдзістаў, выжыў у ваенных катавасіях стагодзьдзя, змог як найпаўней разьвіць і рэалізаваць свой іншы талент, падораны Богам, — талет мэдыка, Лекара ў найвышэйшым сэнсе гэтага слова. Ён стаў цяпер найбольш і пераважна доктарам Мацеем Смаршчком, а паэт Анатоль Бярозка з гэтага часу на самай справе трапіў пад яго талерантную апеку. Паэтычны голас А. Бярозкі прагучаў яшчэ раз у 1955 годзе ў нью-ёрскім беларускім часопісе "Конадні" — там зьявіўся яго верш пад назвай "Ліст да маці: Пераклад з забытага", а ўнізе стаяла дата "кастрычнік, 1949". Гэта сапраўды быў "пераклад з забытага", бо ў віленскай "Крыніцы" ў 1939 годзе быў надрукаваны пераклад А. Бярозкам верша Здэнка Нажычкава "Пісьмо да маці", настальгічным парафразам (варыяцыяй) якога стаў новы твор. Бліскучы талент перакладчыка выявіўся ў А. Бярозкі яшчэ раз тады, калі ён пажадаў данесьці таксама да амэрыканскага чытача сьвятло сваёй беларускай душы і зрабіў пераклады ўласных вершаў віленскага пэрыяду на ангельскую мову, а больш дакладна — пераствары іх у іншамоўнай абалонцы. Гэта быў таксама значны крок яго агульнагуманітарнай дзейнасьці, накіраванай на збліжэньне і паразуменьне двух народаў, разьдзеленых ня толькі акіянам, але і рознасьцю культурных цывілізацыяў. На выхад паэтычнай кнігі Анатоля Бярозкі "Eleven Poems" адгукнуўся рэцэнзіяй у нью-ёрскай газэце "Беларус" яе рэдактар і таксама, як А. Бярозка, паваенны пілігрым-эмігрант з Беларусі доктар гісторыі Янка Запруднік. Ён даў тонкае і пранікліае прачытаньне Бярозкавых твораў, адчуўшы і мінорнасьць іх тону, і вечныя матывы тугі па прыгажосьці і дасканаласьці, закутых ланцугамі нядолі і людзкога гора: "Аўтар жыве ў сьвеце восеньскім, вячорным і начным, калі ягоная душа найглыбей адчувае прыхаванае змрокам маўклівае людзкое гора, ці не адзінай дапамогай якому засталося толькі паэтава спачуваньне. Сэрца песьняра прагне палёгкі, выбаўленьня ад "сабачае долі", але рэальнасьць вызваленьня кволая, як сон..." Янку Запрудніку, як і Анатолю Бярозку была добра знаёмай даваенная заходнебеларуская рэчаіснасьць, але рэфлексія над нядоляй народу не магла ўсё-ж зацьміць імкненьня зразумець вечныя каштоўнасьці чалавечага быцьця, гатоўнасьці служыць высокім ідэалам і змагацца за правa вольнага творчага самавыяўленьня. Таму зусім слушна Янка Запруднік напісаў у сваёй рэцэнзіі, што мінорныя, журботныя настроі многіх вершаў Бярозкі "сьведчаць не пра кволасьць душы, а пра ейную чуласьць, спагадлівасьць да родных хатаў, што векавою тугою набраклі". Пры ўсёй бязьмернасьці народу ды выкліканых гэтай нядоляй пакутаў, на дне паэтавай душы пануе "гордая ціша", вызваленасьць ад "нявольніцкіх уздыхаў" і гатовасьць "перад Богам маіх бацькоў... заўтрашні дзень адчыніць сабе стальлю". Зборнік А. Бярозкі Мацьвея Рэпкава-Смаршчка, — робіць заключэньне рэцэнзэнт, — ...гэта сьведчаньне трываласьці таго духу спагады і любасьці ў "душы гордай", якая па маўклівым паўстагодзьдзі падала свой голас". Менавіта Янка Запруднік і напісаў у лісьце да аўтара гэтых радкоў, што паэт А. Бярозка і Мацей Смаршчок гэта адна і тая-ж асоба (тады Інстытутам літаратуры імя Янкі Купалы ў Менску рыхтаваўся да выданьня бібліяграфічны слоўнік "Беларускія пісьменьнікі", і праясьненьне дэталяў, зьвязаных з асобай паэта, стаяла на парадку дня): "Што да Анатоля Бярозкі, дык ён жыве цяпер у Амэрыцы. Гэта заслужаны доктар мэдыцыны Мацьвей Смаршчок... Некалі ў "Беларусе" я зьмясьціў рэцэнзію на ягоны невялічкі зборнічак вершаў"... Так праясьнялася загадка авеянага легендай паэта, крокі якога помнілі перад вайной муры і брукаванкі старажытнай Вільні, і гэтыя крокі, пакрытыя смугою гадоў, ізноў ажылі і пачалі гучаць родным беларускім рэхам на амэрыканскіх "авэнью".

Поле, далёка — шырокае поле... І неба над полем
Сіняе!... Неба бяздоннае... Шолах вячэрніх палёў
ціхі, як песьня з грудзёў набалелых. што з ветру
парывам па струнах вечару ймкне... І слухаюць
ніва...

Гэта песьня, што полымем пеніць кроў...
Гэта песьня — аб волі!
Там — магілы дзядоў пад крыжамі пахілымі
дрэмлюць —
зьдзірванелая спадчына сівых вякоў, як чорныя
раны
ўеліся доўгія цені крыжоў у шэрую зямлю,
упалі на жоўць пяску, ўкрылі траву пад сабою
чорным сумам...
Гэтта, на гэтых курганах
вякамі здабычу дзялілі чужыя багі і цары
і крывавыя іх аўтары
дыміліся доўга — нашай крывёю...

Тэматычнай асновай лірыкі А. Бярозкі станавіўся пэйзаж, праз які выяўляліся настрої душы і пануючыя матывы, адначасова-ж прыадчыняўся зрэз жыцьця ў сваёй неадназначнай шматмернасьці. Так і ў прыведзеным вершы пазначаны абагульняльнымі сімвалічнымі штрыхамі традыцыйна строгі і сьціплы беларускі пэйзаж абуджаў магутныя струны ў душы, якія гучалі тугою па волі і адгукаліся сумам старадаўніх курганоў — сьведкаў мінулай велічы і заняпаду краю — даўняй Крывіі, як назваў яго ў сваіх этнакультурных досьледах Вацлаў Ластоўскі. Відавочна, не без уплыву апошняга праз настрої тугі і смутку акрэсьліваўся патрыятычны накірунак гэтага вершу А. Бярозкі, калі ў сэрцы лірычнага героя ўсе рысы дарагога краявіду зьліваліся і гучалі ўрачыстым сакральным гімнам у гонар сьвятая сьвятых — Бацькаўшчыны: "Вечар, сэрца, магілы і поле зьліліся ў адзіны псальм — Крывія!.. І моляцца сонцу разоры, Сонцу, што ўжо дагарае на шэрым попеле хмар".

У цэлым у паэзіі А. Бярозкі адчуваецца насьледаваньне лепшым узорам адраджэнскай беларускай паэзіі. Ён знаходзіцца ў коле традыцыйных матываў і вобразаў: абуджальнай вясны, руні, нёманскіх хваляў, дубоў, што выстойваюць у буру, ліхіх хмараў ("Шуміць Нёман", "Пяі аб вясьне", "На раскутай з-пад сьнежных пялёнаў зямлі"). Але звыклыя матывы, дзе прысутнічаюць плач аб нядолі і мара аб далёкай сьветлай будучыні, паэт імкнецца эстэтызаваць, упрыгожыць, ускладніць фактуру вершу рэдкім лексічным арнамэнтам, выкарыстанем доўгіх запаволеных радкоў (ад сямі-васьмі да пятнаццаці-шаснаццаці складоў пры адвольнай колькасьці націскных). Ён таксама ўсьлед за М. Багдановічам, І. Канчэўскім адчувае схільнасьць да свабоднага вершу і з посьпехам карыстае гэты прынесены мадэрнізмам спосаб вершаванага выказваньня, які дазваляе з-за рассунутасьці фармальных рамак дасягаць глыбокай філасофскай напоўненасьці твораў. Нягледзячы на заўважанае панаваньне восеньскіх змрочных настрояў, усё-ж яны шчыльна пераплятаюцца ў яго вобразным сьвеце з прадчуваньнем вясны—пары абнаўленьня надзей, хрысьціянскай перамогі над змрокам, смуткам, нядоляй. Гэтую духоўную перамогу вястуе абуджаная зямля і першыя кранальныя кветкі — канваліі:

На раскутай з-пад сьнежных пялёнаў зямлі
Нова-ўстаўшая рунь зелянее;
У цёмнай гушчы лясной, у цішы расьцьвілі
Кветкі — зоры вясны — расьцьвілі канвалеі.
Доўга з бурамі жорсткую спорку вялі
Дубы — старцы лясныя, натужыўшы грудзі;
Доўга хмары ліхія над полем злавалі
І шалёна круціліся кудасы хвалі,
У вочы небу сьнягамі мялі...
Прамінулі і шчэзьлі...
Як мары...
Як людзі...
Ідзе дзень... Ўстануць руні на нашых палёх!..
Вецер хмары-нягоды разьвее,
Сьлёзы сонца абсушыць... Магутны араты
Выйдзе з песьняй і плугам з прабуджанай хаты
Новы шлях праараць між цярністых дарог...
Расьцьвітуць канвалеі...

У гэтым настраёва-аптымістычным вершы таксама зьліваюцца ў адно пэйзажны малюнак і патрыятычны матыў: абуджэньне прыроды падавала надзею на аднаўленьне роднага краю, на яго шчасьлівую будучыню. Анатоль Бярозка

знаходзіць свой паэтычны сымвал гэтага абнаўленьня — рэдкі ў паэзіі вобраз першых кветак вясновага беларускага лесу белых пяшчотных канваліяў. Гэтым ён ізноў-жа ўпісваўся ў нацыянальную паэтычную традыцыю, калі эстэтызацыя пэўнай кветкі вырастала ў знакавы сымвал радзімы. Так, для Максіма Багдановіча, як вядома, "цьвяткОм радзімы" быў родны сьціплы палявы васілёк. З вершам Уладзіміра Дубоўкі "О, Беларусь, мая шыпшына!" нязьменна стаў зьвязвацца новы сымвал Беларусі — вобраз шыпшыны. Як можна заўважыць, гэта не былі пышныя, кідкія экзатычныя кветкі паўднёвых садоў ці аранжарэяў, назойлівая прыгажосьць якіх для ўсіх навідавоку, хутчэй наадварот — і васілёк, і шыпшына хвалявалі душу паэтаў сваёй кранальнай сьціпласьцю, агранічнасьцю для беларускага краявіду, і таму з батанічнай зьявы пад натхнёным пяром песьняроў ператвараліся ў нацыянальную культурную каштоўнасьць — эмблему Бацькаўшчыны. Такі-ж эмблематычны і вобраз канваліяў /ландышу/ ў вершы Анатоля Бярозкі — менавіта з гэтымі "зоркамі вясны" зьвязана тут нацыянальнае адраджэньне Беларусі, і менавіта яны ўспрымаюцца як "кветкі радзімы" аўтара. Сёлетняй вясной беларуская зямліца ізноў закрасуе "канвалеямі" Анатоля Бярозкі. Хай гэтыя мілыя любімыя ім кветкі стануцца пацяшэньнем паэту ў далёкім заакіянскім краі, з вясновым ветрам данясуць яму свой водар і сардэчнае прывітаньне з радзімы.

*Ірына Багдановіч* (Менск)

==========================

# Сьпявайце, хлопцы, сьпявайце!

### У Нью-Ёрку і Чыкага прайшлі канцэрты ансамбля "Песьняры"

…Як надзіва хутка ляціць час, здаецца, гэта было ўчора… Прыгадваю той год, калі яны зьявіліся ў Менску, спачатку як крыху парадыйны ансамбль "Лявоны", а потым, усё больш глыбока і дасканала спасьцігаючы тое, што ёсьць у багацейшым беларускім музычным і песенным фальклёры, сталі "Песьнярамі". Кіраваў імі таленавіты сьпявак і музыка Уладзімер Мулявін. Помню і той, напісаны ў захапленьні верш, што пачынаўся заклікам: "Сьпявайце, хлопцы, сьпявайце!", якім вітаў зьяўленьне "Песьняроў" паэт Генадзь Бураўкін. У той так званы застойны час канца шасьцідзесятых – пачатку сямідзесятых гадоў "Песьняры" гучалі як выклік многім савецкім рэгламентацыям, у тым ліку ідэялагічным і эстэтычным. Афіцыйныя ўлады ды й масавая публіка такога не чакалі і да такога не звыкліся. Зусім зьнік некуды станоўчы герой-ідэал і прыкметы савецкага часу. Вусатыя і валасатыя маладыя мужчыны сьпявалі пра нейкага Яся, які касіў канюшыну і пагладаў на дзяўчыну, зусім ня думаючы пра свае вытворчыя паказчыкі. Пра нейкую Александрыну (знайшлі ж імя), якая наогул невядома, была ці не была. Пра нейкую дзяўчыну Алесю, якая чамусьці пайшла і ўжо ніколі ня вернецца, і таму з паднябесься самотным жаўранкам зьвініць і плача месяц май. А чаго вартая была, напрыклад, песьня "Каляда", якая апявала рэлігійнае сьвята з нейкімі дзіўнымі старадаўнімі паганскімі сымбалямі…

Незвычайнай была і музычная мова, на якой "Песьняры" зьвярталіся да нас. І справа ня толькі ў надзіва лірычных напеўных мэлёдыях, у дасканалых апрацоўках песень, што здавён сьпяваў народ, у новых творах, напісаных самім Уладзімерам Мулявіным і кампазытарам Ігарам Лучанком, які адразу ж стаў верным сябрам "Песьняроў". Уражвала паліфанія, адкрыцьцё і далейшае развіцьцё найбагацейшага беларускага фальклёрнага многагалосься. Бадай адзіны ў сусьветнай канцэртнай практыцы мужчынскі вакальны ансамбль, які выконваў мэлёдыі ў шэсьць і восем (!) галасоў, гучаў ня проста надзвычай чыста; мы чулі чароўнае багацьце інтанацый, эмоцый, пачуцьцяў, подых сапраўднай паліфаніі разам з дакладным разуменьнем насычанай вобразнасьці і паэтычнасьці тэкстаў. І не было аніякага савецкага пафасу; у нейкай ступені ён зьявіўся тады, калі "Песьняры" выйшлі на так званую ўсесаюзную арэну і сталі супрацоўнічаць ня толькі з беларускімі, але і з расейскімі кампазытарамі – выступаць у некаторых залях Масквы ў той час было немагчыма без хаця б адзінкавых песень пэўнага кірунку. Зрэшты, і яны, як, напрыклад, песьні А.Пахмутавай, гучалі толькі ў іх, "песьняроўскай" манеры і толькі ў іх танальнасьці.

Я катэгарычна супраць сьцьвярджэньняў, што прагучэлі ў папярэдняй рэкламе і ў некаторых публікацыях, што "Песьняры" – легенда расейскай эстрады", "выдатная зьява расейскага року". Гэткую вялікадзяржаўнасьць, пэўна, яшчэ доўга колам не выб'еш з розумаў многіх. Усё, што зрабілі і робяць "Песьняры", – зьява **беларуская** перш за ўсё, і па сваіх вытоках, і па сваёй сутнасьці. Яны народжаны і ёсьць частка найбагацейшай культуры беларускага народа і яго духоўнасьці, над якімі – не дай, Божа! – так і ня зьнікла пастаянная пагроза асіміляцыі і зьнішчэньня.

Вернасьць сваім вытокам, сваім першапачатковым прынцыпам "Песьняры" поўнасьцю пацьвердзілі на канцэртах у Нью-Ёрку і Чыкага, што адбыліся ў сярэдзіне чэрвеня. Праграма пачыналася "Спадчынай" на словы Янкі Купалы, затым гучалі "Касіў Ясь канюшыну" і іншыя беларускія народныя песьні, песьні на словы Я.Купалы, М.Багдановіча, П.Броўкі, А.Куляшова, А.Ставера і іншых беларускіх паэтаў. Слухачы былі ўражаны натхнёным выкананьнем – многагалосьсе a'capella – народнай песьні "Купалінка". У другім аддзяленьні гучалі "Лявоніха", "Княжна", "Ля Замкавай гары" і



іншыя песьні. Была выканана выдатная рок-кампазыцыя Уладзімера Мулявіна "Крык птушкі", у якой мэлёдыя, сучасныя рытмы, вакал, складанейшая электраарганная інструмэнтоўка – усё зьлілося ў адзіны матыў, у абагулены крык птушкі , што гучаў як крык народа, у якога такі трагічны лёс.

У кіраўніка ансамбля "Песьняры" Уладзімера Мулявіна – такі ж, як і раней, моцны і выразны, з той жа энергетыкай голас. Узрадвалі сваімі чыстымі галасамі заслужаныя артысты Беларусі Леанід Барткевіч і Анатоль Кашапараў, якія нядаўна вярнуліся ў калектыў. Цудоўна сьпяваюць маладыя Валерый Скаражонак і Вадзім Касенка – вакалісты з галасамі вялікага дыяпазону. Усіх зачаравалі зусім маладыя Павел Заяц і Сяргей Мядзьведзеў – і цудоўныя сьпевакі, і віртуозы-музыкі: Заяц – клавішныя, Мядзьведзеў – электрагітара. Здалося нават, што некаторыя знаёмыя нумары сёньня "Песьняры" выконваюць магутнее, са значна большым дыяпазонам і градацыяй высокіх і нізкіх галасоў ды, у некаторай ступені, глыбей па думцы, па зьместу. Захоўваецца тая ж ранейшая кантыленная расьпеўнасьць мэлёдый, каларытнасьць, павага да нацыянальных традыцыяў. Галоўнае – ёсьць пранікненьне ў паэзію, павага да тэксту, да паэтычнай вобразнасьці. "Песьняры" добра адчуваюць сваю аўдыторыю, цудоўна разумеючы, што і чаму яны сьпяваюць.

На канцэртах у Нью-Ёрку і Чыкага было многа прадстаўнікоў беларускай дыяспары Амэрыкі. У Чыкага пасьля канцэрту Вера і Вітаўт Рамукі паднесьлі кветкі кіраўніку "Песьняроў" Уладзімеру Мулявіну.

**Ванкарэм Нікіфаровіч** (Чыкага).

Ад рэдакцыі: У Чыкага канцэртная заля была паўнюсенька



## Якія яны маладыя ды прыгожыя

На гэтым здымку ўперадзе сядзяць Васіліна Шурпік з Брусоў і Лена Камсюк з Лыжычаў. Стаяць за імі (злева направа) Аня Уліцкая з Язджэнцаў, Надзя Куцкевіч з Азарак, Аня Лапцік з Сіманаў, Надзя Брэская з Лыжычаў. Іх маладыя жыцці абарваліся 14 чэрвеня 1944 года ў нямецкім горадзе Гамбург. Дзяўчат вывезлі ў Нямеччыну і прымусілі працаваць на радыёзаводзе. Нялёгка ім гэта было, нездарма Надзя Брэская пісала ў Лыжычы: "Успамінай мяне ў краі родным, дарагая мама".



Англійская авіяцыя бамбіла нямецкія заводы, гарады. Адна з авіябомбаў трапіла ў сховішча, дзе хаваліся ад налёту авіяцыі нявольніцы. Ад бамбасховішча нічога не засталося. Толькі дзве дзяўчыны ўцалелі, а астатнія (сто пяцьдзесят) загінулі ад асколкаў, пад цяжарам бетонных перакрыццяў. На тым заводзе працавалі дзяўчаты з Беларусі, Украіны, Расеі.

Юным рабочым у той час быў Віктар Камсюк з вёскі Лыжычы. Працаваў не на заводзе разам з дзяўчатамі з Мядзельшчыны, а на заводзе па ўтылізацыі смецця. Пасля разбурэння авіябомбай сховішча пабываў на жахлівым месцы і сёння не можа спакойна ўспамінаць убачанае. Сённяшняя жыхарка вёскі Варанцы Паўліна Кавалёва (у замужжы Варанец) працавала на тым заводзе, але яе перад той жахлівай бамбардзіроўкай накіравалі ў канцлагер разам з прадаўцом магазіна (немкай) за тое, што тая дала дзяўчыне хлеба. У чужой старонцы, у сырой зямельцы ляжаць нашыя землячкі. Віной усяму гэтаму вайна і тыя, хто іх, войны, развязвае, квапіцца на суседнія землі, робіць людзей нявольнікамі.

"Рэгіянальная газэта" *М. ЧАРНЯЎСКІ, Нарач.*

##########################################

## КОРАТКА… і цікава

Мэханізм вылучэньня адзінага кандыдата распрацаваў аргкамітэт руху "За новую Беларусь". Ачольнік руху экс-міністар сельскай гаспадаркі й харчаваньня Васіль Лявонаў паведаміў, што цяпер ідуць перамовы з апазыцыйнымі прэтэндэнтамі, "як зь пяці зрабіць аднаго, у камандзе якога будуць працаваць усе, хто здольны ахвяраваць сваімі амбіцыямі". В.Лявонаў лічыць, што сярод патэнцыйных кандыдатаў ёсьць "падсадныя качкі" - людзі, гатовыя працаваць на Лукашэнку. Іхныя імёны спадар Лявонаў гатовы назваць пасьля рэгістрацыі кандыдатамі.

# Крыж у Расіі?

Удзельнікі паседжаньня беларуска-расійскага штаба па вышуку крыжа Еўфрасінні Полацкай выказалі меркаванне, што гэтая зніклая рэліквія зараз знаходзіцца ў Расіі. З супрацоўнікаў КДБ Беларусі і ФСБ Расіі будзе створаная спецыяльная група па росшуку крыжа…

**У парадку дыскусіі...**

Ігар Лялькоў (Н. Ніва)

# Адвечная песьня

*Аб адной няўдалай спробе аб'яднаньня паваеннай беларускай эміграцыі*

**Чарговая ў нашай гісторыі хваля масавай эміграцыі зь беларускіх земляў, восьмая па падліках Аўгена Калубовіча, хлынула ў Заходнюю Эўропу пры канцы другой сусьветнай вайны ў выніку чарговай жа зьмены акупацыйных рэжымаў у нашым краі. У выніку, на Захадзе апынуліся сотні тысячаў нашых суайчыньнікаў, прычым упершыню сярод іх была значная колькасьць людзей, якія ўсьведамлялі сябе беларусамі. Зусім натуральна, што ў такіх абставінах пасьля 1945 г. на Захадзе склалася самая вялікая ў гісторыі беларускай эміграцыі палітычная плынь.**

Як вядома, палітычная актыўнасьць, для таго каб быць выніковай, вымагае вельмі высокай ступені арганізаванасьці і каардынаванасьці ў дзеяньнях суб'ектаў гэтай актыўнасьці. Гэта выдатна разумелі найбольш адукаваныя і дальнабачныя актывісты тагачаснага беларускага руху на эміграцыі, і недарэмна, па словах Янкі Запрудніка, "пэрыяд другой палавіны 40-х — пачатку 50-х гадоў быў часам арганізацыйных намаганьняў… Вялікі высілак быў пакладзены на тое, каб стварыць свае арганізацыі, прышчапіць моладзі нацыянальны сьветагляд, ... наладзіць грамадзка-культурнае жыцьцё ў краёх новага пасяленьня, устанавіць лучнасьць зь іншымі беларускімі асяродкамі, скаардынаваць нутраную і вонкавую дзейнасьць". Аднак, аб'ектыўным фактарам, які значна ўскладняў гэтую арганізацыйную працу, быў сацыяльны склад паваеннага беларускага замежжа. Пераважалі выхадцы зь вёскі, зь іх невысокім адукацыйна-культурным узроўнем, заўсёднай сялянскай хціваасьцю і прыроджаным мэркантылізмам ды індывідуалізмам. Дарэчы будзе заўважыць, што і надзвычай тонкая праслойка інтэлігенцыі, якая складалася літаральна зь некалькіх дзясяткаў асобаў, у большасьці сваёй паходзіла таксама зь вяскоўцаў і, за рэдкім выняткам, не пераўзыходзіла ўзроўню сельскага настаўніка.

Дый гэтая нешматлікая "эліта" ня мела адзінства ў палітычных і рэлігійных пытаньнях (галоўнай прычынаю гэтага былі міжасабовыя канфлікты ў вярхушцы беларускай заходняй дыяспары). Падзел сьвядомых беларусаў у замежжы на "бээнэраўцаў" (прыхільнікаў аднаўленай у 1947—48 г. Рады БНР на чале зь Міколам Абрамчыкам) і "бэцээраўцаў" (сымпатызантаў створанай у канцы 1943 г. Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага) выклікаў цяжкасьці ў арганізацыйным станаўленьні нашай палітычнай эміграцыі. Гэта абумовіла яе вельмі сьціплы, у параўнаньні з эміграцыяй палякаў, прыбалтаў або ўкраінцаў, уплыў на ўнутрыпалітычнае жыцьцё Беларусі пад савецкай акупацыяй і на фармаваньне грамадзкай думкі пра Беларусь у дэмакратычным сьвеце.

Маючы ўсё гэта на ўвазе, зьвернемся да працэсаў, якія адбываліся ў канцы 40-х у беларускіх асяродках Францыі. У той час Парыж робіцца цэнтрам "бээнэраўскай", альбо "крывіцкай" плыні беларускага нацыянальнага руху. Менавіта тут была падрыхтаваная "Дэкларацыя Рады БНР", якая паведаміла сьвету пра аднаўленьне дзейнасьці дзяржаўнага прадстаўніцтва незалежнай Беларусі ў выгнаньні. Дэкларацыя была апублікаваная ў газэце "Бацькаўшчына", якая выдавалася ў лягеры для перамешчаных асобаў Астэргофэн (Ніжняя Баварыя), пад фікцыйнай датай 29 сьнежня 1947 г. Гэта дасёньня ўводзіць у зман гісторыкаў з КГБ, якія лічаць, што Рада БНР адрадзілася ў Астэргофэне ў сьнежні 1947 г. (як А.Салаўёў у кніжцы "Белорусская Центральная Рада: создание, деятельность, крах" (Мн, 1995). Ад 1931 г. у Парыжы дзейнічала найстарэйшая сёньня ў сьвеце беларуская эмігранцкая арганізацыя "Хаўрус беларусаў у Францыі", існаваў адзіны на эміграцыі беларускі прафсаюз "Аб'яднаньне беларускіх работнікаў у Францыі", выдавалася першая на Захадзе паваенная беларуская газэта "Беларускія Навіны" і першы легальны друкаваны часопіс "Божым Шляхам", тут жылі й працавалі Мікола Абрамчык, Лявон Рыдлеўскі, Уладзімер Шыманец, айцец Леў Гарошка — "мазгавы цэнтар" аднаўленай Рады. Мэтаю аднаўленай Рады БНР было стварэньне паўнавартаснага "беларускага ўраду ў выгнаньні", прызнанага краінамі Заходняга Сьвету. Аднак, каб дасягнуць гэтага, кіраўніцтва Рады мусіла прадэманстраваць, што за ім стаяць сапраўды значныя сілы як на эміграцыі, так і ў Савецкай Беларусі.

Што да працы Рады БНР сярод удзельнікаў антысавецкага падпольля й партызанскага руху ў паваеннай БССР, то гэтая тэма яшчэ патрабуе адмысловага вывучэньня і выходзіць за межы разгляданай тут праблематыкі. Таму спыняцца на гэтым я ня буду, а толькі адзначу: выглядае на тое, што ўсё ж такі большасьць удзельнікаў антысавецкага беларускага супраціву канца 40-х — пачатку 50-х была прыхільная хутчэй да БЦР, чым да БНР. Сярод эміграцыі Рада БНР магла разьлічваць на падтрымку пераважнай большасьці беларускай грамады ў Францыі й Бэльгіі, Беларускага Нацыянальнага Камітэту Амэрыканскай акупацыйнай зоны ў Нямеччыне, Беларускага Цэнтральнага Дапамогавага Камітэту Нямеччыны, Згуртаваньня беларусаў Вялікай Брытаніі, гіерархаў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, сьвятароў-каталікоў і ўніятаў, ангажаваных у беларускі рух. Гэта была толькі частка эміграцыі. У гэткіх умовах узьнікла ідэя стварэньня Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускае Эміграцыі (САБЭ), якое мусіла б публічна падтрымліваць дзейнасьць Рады ад імя ўсёй эміграцыі і забясьпечваць яе легітымнасьць у вачах заходніх хаўрусьнікаў, а таксама кіраваць палітычнай і культурнай працай "бээнэраўскіх" арганізацыяў ува ўсіх краінах сьвету і кантраляваць ападаткаваньне гэтых арганізацыяў "на патрэбы нацыянальнага руху".

САБЭ было заснаванае рашэньнем Першага сусьветнага зьезду беларускае эміграцыі, які адбыўся ў Парыжы 28 лістапада — 2 сьнежня 1948 г. Дэлегаты зьезду, зьвяртаючыся "да беларусаў і беларусак ува ўсім сьвеце", заклікалі іх "гуртавацца пад родным сьцягам Беларускае Народнае Рэспублікі, якая цераз Раду БНР, Прэзыдэнта Рэспублікі інж.М.Абрамчыка і Ўрад БНР зьяўляецца безпасярэднім злучвом з прыгожымі традыцыямі нашага вызвольнага змаганьня, яго найвышэйшым дасюль здабыткам і адзінай для нас надзеяй і гарантыяй павароту на вольную Беларускую Зямлю!" Сярод пунктаў рэзалюцыі зьезду найбольшае практычнае значэньне мелі наступныя: "3. Старацца стварыць сталыя матэрыяльныя базы для беларускай грамадзкай працы, выкарыстоўваючы для гэтага мясцовыя ўмовы й магчымасьці. 4. Стварыць адзінае ўсебеларускае кіраўніцтва ўсёй беларускай работы на эміграцыі і ўсестароньняй апекі над беларускімі эмігрантамі ўва ўсіх краінах, дзе б яны ні былі, з прадстаўніцтвамі ад усебеларускага кіраўніцтва". Той факт, што з 22-х дэлегатаў зьезду 9 прадстаўлялі Францыю, 4 — Вялікую Брытанію, 2 – Нямеччыну і яшчэ з 7 краінаў (Бэльгія, Данія, Швэцыя, Італія, Канада, Аргентына, Аўстралія) прыехалі па адным чалавеку, красамоўна сьведчыць пра ступень уплыву тагачаснай беларускай дыяспары ў Францыі на ўсю "бээнэраўскую" эміграцыю. Ня дзіўна, што старшынём Ураду Сусьветнага Аб'яднаньня Беларускае Эміграцыі быў абраны лідэр Аб'яднаньня беларускіх работнікаў у Францыі Лявон Рыдлеўскі. Дарэчы, ён быў вэтэранам францускага Рэзыстансу й пяць гадоў (1940—1945) правёў у "макі", г.зн. у партызанах, што мелася забясьпечыць прыхільнае стаўленьне да наваўтворанай арганізацыі з боку нядаўніх пераможцаў нацызму. Адным з заступнікаў старшыні і адначасова фінансавым рэфэрэнтам САБЭ быў прызначаны міністар фінансаў БНР Уладзімер Шыманец. Сядзіба Аб'яднаньня месьцілася, натуральна, у Парыжы, дзе ўжо функцыянавала "Гаспода" Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка.

Здавалася, былі створаныя ўсе перадумовы для гуртаваньня пад супольным кіраўніцтвам беларусаў на эміграцыі, прынамсі, тых, хто прытрымліваўся пэўнага палітычнага напрамку. Каб гэта тады адбылося, без усялякага сумненьня, цалкам выканальнымі былі б наступныя, вельмі пэрспэктыўныя пункты рэзалюцыі зьезду: "…2. Зьвязаць і здысцыплінаваць грамадзкія актывы … так, каб праца вялася рацыянальна, плянава і сыстэматычна безь ніякіх перарываў. 5. Сканцэнтраваць і скаардынаваць усе высілкі ў справе беларускай прэсы і выдавецтва наогул. 6. Стварыць Цэнтральную Беларускую Інфармацыйную Службу і архіў дакумантаў. 7. Правесьці рэгістрацыю беларускіх эмігрантаў ува ўсіх краінах. 11. Узмоцніць высілкі дзеля павелічэньня колькасьці студыюючых беларусаў з мэтай запэўненьня росту кадраў беларускай інтэлігэнцыі і арганізацыі беларускіх школаў і навуковых установаў. 14. Стварыць цэнтралю беларускіх камбатантаў-вайскавікоў у сусьветным значэньні дзеля кансалідаваньня і каардынаваньня іх арганізацыйнай работы" ды інш. Увасабленьне гэтых плянаў у жыцьцё дало б магчымасьць беларускай эміграцыі, прынамсі, "на роўных" пачувацца сярод эміграцыйных асяродкаў іншых народаў, што патрапілі пад савецкую акупацыю і, як і беларусы, спадзяваліся на падтрымку й дапамогу краінаў Вольнага Сьвету.

Аднак, напачатку, як сьведчаць дакументы, якія мне пашчасьціла выявіць у архіўным зборы Беларускай каталіцкай місіі ўсходняга абраду ў Парыжы, трэ было скаардынаваць дзейнасьць беларускіх арганізацыяў у самім сэрцы руху — у Францыі. Вядзецца пра пратаколы паседжаньняў Каардынацыйнага камітэту беларускіх арганізацыяў у Францыі, першы зь якіх датаваны 27 лютага 1949 г., апошні (пяты) — 16 ліпеня 1950 г. (пратакол №4 адсутнічае). Першапачаткова ў камітэт увайшлі толькі дзьве галоўныя арганізацыі: Хаўрус беларусаў у Францыі на чале зь Міколам Абрамчыкам і Аб'яднаньне беларускіх работнікаў Лявона Рыдлеўскага. На другім паседжаньні яголны склад папоўнілі яшчэ 6 арганізацыяў, "якія стаяць на грунце БНР і якія маюць самастойны статут ці рэгуляміны": Беларускі выдавецкі фонд (старшыня — Уладзімер Шыманец), Аб'яднаньне беларускіх жанчын (старшыня — Ніна Абрамчык), Беларуская незалежніцкая арганізацыя моладзі (старшыня — Янка Філістовіч), Згуртаваньне беларускіх студэнтаў (старшыня — Міхась Навумовіч), Зьвяз Беларускіх скаўтаў (старшыня – той самы Навумовіч) і Беларуская каталіцкая місія (рэктар — а.Леў Гарошка). Пры гэтым, наколькі мне вядома, зь іх рэальна, а не на паперы, існавала толькі БНАМ Філістовіча дый каталіцкая місія, якая складалася з аднаго айца Лява й займалася ўласьцівай для яе справай рэлігійнага душпастырства. Але колькасьць арганізацыяў была тут справай прынцыповай, бо камітэт пастанавіў, "што кожная Арганізацыя павінна плаціць 10% сваіх складак на карысьць САБЭ".

Аналіз названых пратаколаў дазваляе меркаваць, што менавіта фінансавыя пытаньні былі галоўнай тэмай на паседжаньнях Каардынацыйнага Камітэту. На трэцім паседжаньні Ўладзімер Шыманец абвясьціў, што "кожны Беларус, які прызнае сувэрэнітэт БНР, павінен самаападаткавацца, купляючы маркі БНР"4 . Пратакол пятага паседжаньня прыводжу тут цалкам, бо стаўся ён апошнім тагачасным сьведчаньнем аб'яднаўчых памкненьняў нашых палітэмігрантаў у Францыі (наступны дакумэнт за подпісам "Каардынацыйны Камітэт", які знаходзіцца ў той самай тэчцы, адносіцца ўжо да 1966 г.) і менавіта ў ім, на маю думку, хаваецца ключ да разуменьня прычынаў няўдачы гэтых памкненьняў:

Пратакол № 5…

Слова заняў сп.Шыманец, які накрэсьліў гісторыю нашай эміграцыі, пры гэтым зацеміў[,] што дзеяньне эміграцыі ёсьць разьбітае і ня ёсьць скаардынаванае. Прычым[,] як бы мы ні хацелі дагадзіць розным групоўкам, якія выдзяляюцца ў нас, трэба прыняць агульны плян. Калі б у нас былі зарганізаваны добрыя фінансы, мы маглі б лёгка зарганізаваць прэсу і t.d. На жаль[,] да гэтага часу кожная краіна дзеяла на свой лад.

У сувязі з гэтым, у газэце ["]Бацькаўшчына["] быў артыкул, які заклікаў нашае грамадзянства ўліцца ў адну поласьць[,] каб дагнаць іншыя нацыі, якія стаяць шмат вышэй[,] як Беларусы. З гэтае прычыны паўстала арганізацыя С.А.Б.Э.[,] каб каардынаваць працу розных арганізацыяў, якія параскіданы па ўсім дэмакратычным сьвеце.

Аднак[,] Урад Б.Н.Р. выдаў дэкрэт у справе Фонду 25 Сакавіка — вольныя складкі. Пры гэтым [ён] перадаў гэтую справу для выкананьня С.А.Б.Э.[,] якая можа затрымаць 25% з даходу. Маркі былі выданы[,] і абавязкова трэба прыступіць да данай акцыі, якая з[ь]яўляецца неабходнай.

Была разгледжана як, і якімі мэтадамі трэба прыступаць да беларусаў, усьведамляючы што гэтыя грошы зьбіраюцца на дзейнасьць ворганаў Б.Н.Р.

Гэтым [для] прадажу марак на Францыю быў выбран сп.Міцкевіч Аляксандар.

Сп.Шыманец зачытаў пастанову фінансавага агента С.А.Б.Э.

Пастаноўлена склікаць агульны сход арганізацыяў у Францыі, на парадку дня будзе: "Фонд 25 Сакавіка". Зборка адбудзецца 23.7.50.

На гэтым паседжаньне закончана…

Невядома, ці адбылася зборка 23 ліпеня 1950 г., аднак САБЭ ціхутка спыніла сваё існаваньне неўзабаве пасьля нараджэньня, так і не выканаўшы ніводнага пункту рэзалюцыі Першага сусьветнага зьезду беларускай эміграцыі; сам гэты зьезд застаўся першым і апошнім у гісторыі нашай дыяспары; Рада БНР за наступныя 40 гадоў так і ня здолела разгарнуць дзейнасьць у маштабе, які плянаваўся ў момант яе адраджэньня... Усё гэта сьведчыць, што галоўнай праблемай, зь якою сутыкнулася кіраўніцтва беларускай палітычнай эміграцыі "бэнээраўскага" напрамку ў канцы 40-х — пачатку 50-х, сталася немагчымасьць мабілізацыі сродкаў эмігрантаў-беларусаў у памерах, неабходных для належнай рэпрэзэнтацыі Беларусі ў вачах патэнцыйных хаўрусьнікаў на Захадзе. Нежаданьне большасьці "простых людзей" са шматтысячнай эўрапейскай беларускай дыяспары выдаткоўваць сродкі на ўтрыманьне сваіх палітычных і культурніцкіх інстытутаў сталася адной з галоўных прычынаў глыбокага крызысу беларускага эміграцыйнага жыцьця ў Эўропе (апрача, хіба, Вялікай Брытаніі), які быў пераадолены толькі беларускай эміграцыяй у Паўночнай Амэрыцы. Няўдалая спроба аб'яднаць намаганьні беларускіх арганізацыяў у Францыі, каб вырашыць супольныя праблемы дыяспары, была адной зь першых прыкметаў набліжэньня гэтага крызысу.

Беларус, як бачым, і ў Францыі застаецца беларусам. Заўсёдная гатоўнасьць да гуртаваньня пад патрыятычнымі лёзунгамі на словах і заўсёдная няздольнасьць выдаткоўваць на ўцялесьненьне гэтых лёзунгаў свае сілы, час і, асабліва, сродкі. І няма ў гэтым ні "савецкасьці", ні "калхознасьці" — адно "адвечная песьня" непалітычнага люду, праз моц абставінаў уцягнутага ў палітычны вір…

++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++++

~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~
~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

# Гутарка ў зоне чатырохмоўя

*Міжнародны сэмінар "Культурная спадчына Вялікага Княства Літоўскага, яе значэньне для сёньняшніх Беларусі і Літвы й узаемаразуменьня ў Эўропе" адбыўся ў Рымдзюнах на Астравеччыне.*

Галоўнай мэтай сустрэчы была выпрацоўка новага супольнага для гісторыкаў новых краінаў падыходу да гісторыі ВКЛ, а таксама да міждзяржаўных стасункаў у нашай частцы Эўропы. Менавіта з гэткім разьлікам было абранае месца правядзеньня сэмінару — вёска ў Беларусі зь пераважна літоўскім насельніцтвам. Значная частка жыхароў Рымдзюнаў, Гервятаў ды іншых навакольных вёсак лічаць сябе літоўцамі, хаця прозьвішчы ў іх збольшага беларускія. Паводле статыстыкі, літоўскае насельніцтва складае 0,2% жыхароў сучаснае Гарадзеншчыны. Яно засяроджанае ў 15 вёсках у рымдзюна-гервяцкім краі ды ў Пелясе на Лідчыне.

Прыкметы мінуўшчыны бачныя ў Рымдзюнах на кожным кроку. Вясковая вуліца, што цягнецца ўздоўж лугоў над рэчкай Ашмянкай, захавала сваю пляніроўку з часоў Боны Савойскай. Традыцыйныя хаты ў два акны, пуні ды павеці з закалотамі, бусьлянкі... Вось толькі касьцёлу няма. Каб памаліцца, трэба ісьці чатыры кілямэтры — у родную вёску Адама Мальдзіса, Гервяты. Там у прыгожым мураваным касьцёле у 30-я гады літоўцы зацята біліся з "палякамі", дамагаючыся, каб набажэнства ішло па-літоўску. "Вось дурні былі!" — кажуць рымдзюнскія кабеты пра тыя бойкі ў касьцёле.

Цяпер у Гервятах ранішнюю імшу служаць на літоўскай мове, а вечаровую — на польскай. Рымдзюнцы дасканала зрэалізавалі ў сваім жыцьці ідэал чатырохмоўя: яны аднолькава добра размаўляюць і па-літоўску, і па-беларуску, нядрэнна разумеюцца па-польску, дый па-расейску гутараць ня горш за чыноўных апалягетаў імпэрыі. Ня дзіва, што побач з рымдзюнскімі кабетамі, якія нязмушана пераскокваюць з адной мовы на другую, навукоўцы з розных краінаў пачуваліся невукамі.

Кабеты ў Рымдзюнах надзвычай разумныя і маюць на кожны конт собскае меркаваньне. Адзінае, пра што ў іх няма цьвёрдае думкі – гэта пра выбары. Да Лукашэнкі рымдзюнскія жанчыны ставяцца дваіста. Цямяць, што ён цягне краіну "ў ня той бок", але баяцца, што "безь яго яшчэ горш будзе".

Вяскоўцы зь міжвольным захапленьнем глядзяць на "ліхога казака", які падмяў пад сябе цэлую краіну і ня хоча падпарадкоўвацца ні дзяржаўным законам, ні сусьветнай супольнасьці. Старэйшыя кабеты мяркуюць таксама, што Лукашэнка ня ведае пра іхную бяду, а як даведаецца, дык абавязкова ўсё паправіць...

Тым часам сярэдні заробак рымдзюнскіх калгасьнікаў — 15—20 тысяч рублёў у месяц. Прычэп жа дроваў каштуе 30 тысяч. Бульба апошнім часам ня родзіць — відаць, гатунак выveўся — летась зусім мізэрная была, трэ было купляць у суседнім калгасе. Вяскоўцы, хоць і немаладыя ўжо, па-ранейшаму трымаюць дзьве каровы, але прадаць малако і мяса ў блізкай Вільні цяпер немагчыма — на мяжы адбяруць увесь тавар. Ня дзіва, што жыхары спакушаюцца на кантрабандны гандаль сьпіртам, папулярны на Астравеччыне бізнэс. Нават міліцыя займаецца гэтым. Заадно народ хутка сьпіваецца. У адных толькі Рымдзюнах тры дзясяткі алькаголікаў.

За савецкім часам багата беларускай моладзі перабралася на жыхарства ў Літву. Зьяжджалі ў Вільню, у Ігналіну — будаваць АЭС. Літоўскія гарады вабілі дабрабытам, эўрапейскай культурай побыту. Цяпер літоўскія беларусы езьдзяць дамоў праз мяжу — трэ бацькам дапамагчы ўпорацца з бульбай, накасіць сена. Дый дзецям нялішне падыхаць чыстым паветрам... Аднак літоўскаму грамадзяніну, каб трапіць на гістарычную радзіму, трэба выкласьці ў беларускім консульстве 50 даляраў ды шчэ на мяжы заплаціць ладныя грошы за праезд машынай. Во й падлічыце, колькі грошай трэба віленчуку, каб наведаць бацькоў у ашмянскай вёсцы.

Літоўская дзяржава ставіцца да гэткіх праблемаў з большым разуменьнем. Яшчэ нядаўна віза ў Літву каштавала для беларуса 40 даляраў. Цяпер крыху патаньнела, а для пэнсіянэраў яна ўвогуле дармовая. Дзеці беларускіх літоўцаў маюць істотныя льготы пры паступленьні ў навучальныя ўстановы Літвы. Таму ў невялічкіх Рымдзюнах дзьве школы — літоўская і беларуская — і два дзіцячыя садкі. А 18 сакавіка тут адчыніўся шчэ й Літоўскі культурны, асьветны й інфармацыйны цэнтар, дзе разьмясьцілася літоўская школа-інтэрнат, пара канфэрэнц-заляў, бібліятэка, музэй, выстаўная й актавая залі, гатэльныя нумары для гасьцей, сталоўкі, кавярня... Грошы на будаўніцтва, распачатае за савецкім часам, давала Літва. Адтуль прывозілі будаўнічыя матэрыялы і саміх будаўнікоў. Аднак і Міністэрства культуры Беларусі вельмі дапамагло сродкамі.

Такога беларускага культурнага цэнтру ў Літве няма...

На побытавым узроўні беларусафобія ў Літве заўжды адчувалася больш выразна, чым літуанафобія ў Беларусі. Аднойчы ў размове зь літоўскім прафэсарам музыкі я пахваліла віленскую бітую сьмятанку. "Найлепшую сьмятанку можна пакаштаваць хіба ў Шаўлях, — адказаў прафэсар. — А ў Вільні яна ўвогуле нясмачная, бо ў прыгарадных вёсках жывуць брудныя палякі". Хто гэтыя палякі, удакладняць ня трэба. Гэткае стаўленьне да беларусаў сустракаецца і ў літоўскай навуцы. Ніколі не забудуся, як у працы аднаго ковенскага прафэсара гісторыі прачытала, што стварэньне саюзу Беларусі й Расеі — добрая зьява, бо такім чынам з часам беларусы перастануць прэтэндаваць на спадчыну Вялікага Княства.

Сустрэча ў Рымдзюнах мелася выправіць гэткае становішча, але беларускія й літоўскія навукоўцы нібыта сьвядома пазьбягалі зьместоўнае размовы. Ролю пасярэдніка ў нязьдзейсьненай дыскусіі ўзялі на сябе палякі. Яны заклікалі адмовіцца ад стэрэатыпнага ўспрыманьня супольнай гісторыі і на гэтай аснове будаваць новыя адносіны між дзяржавамі і народамі. Прафэсар Ежы Клачоўскі сымбалічна папрасіў прабачэньня за "гістарычны польскі імпэрыялізм", праз які й самі палякі страцілі ўяўленьне пра сваю нацыянальную ідэнтычнасьць.

Уяўленьне пра "Рэч Паспалітую абодвух народаў", паводле якога палякі былі народам палітычным і шляхецкім, а ліцьвіны — вясковым і прыгонным, і абодва народы лічыліся дзьвюма іпастасямі "адзінай і непадзельнай" Польшчы, "было вялізнай памылкай палякаў", — сказаў прафэсар Клачоўскі, — "бо Рэч Паспалітая і тым больш Вялікае Княства — гэта зусім ня Польшча. Гэта супольны твор многіх народаў, якія жылі ў тых дзяржавах".

Каб падкрэсьліць прынцыповую роўнасьць усіх, хто насяляў "Рэч Паспалітую многіх народаў" — беларусаў, габрэяў, літоўцаў, палякаў, татараў, украінцаў, польскія дасьледчыкі нават пералічваюць іх выключна ў альфабэтным парадку, гэта асабліва заўважна пры параўнаньні з расейскай традыцыяй, у якой "братнія славянскія народы" заўжды распачынаюцца са "старэйшага брата".

Розьніца ў мысьленьні адбіваецца на палітыцы. Расея настойліва імкнецца да апекі над Беларусяй, тады як Польшча бачыць на ўсходзе раўнапраўнага партнэра, зь якім яе лучыць супольная і непадзельная гістарычная спадчына. Польшча прызнае ўсе крыўды, зробленыя беларусам у мінулым стагодзьдзі, і просіць за іх прабачэньня. Яна выяўляе сваю сымпатыю ў канкрэтных учынках на карысьць беларускага грамадзтва: падтрымлівае беларускую культуру, дзеліцца сваім досьведам дэмакратыі, спрыяе ўваходжаньню Беларусі ў Эўропу.

Польшча ня мае намеру адгароджвацца ад нас візавай заслонай, нават калі Эўразьвяз змусіць яе да гэтага. "Бязь візаў нам не абысьціся, але каштаваць яны маюць прыкладна, як квіток у кіно", — тлумачылі мне ўдзельнікі канфэрэнцыі. З гледзішча польскіх інтэлектуалаў, Беларусь — арганічная частка Эўропы, якую нельга адасабляць ад агульнаэўрапейскае прасторы.

На думку прафэсара Клачоўскага, галоўнымі фактарамі, якія ядналі народы Рэчы Паспалітай, былі прыналежнасьць да Эўропы і глыбокая прывязанасьць да эўрапейскіх каштоўнасьцяў. Яны яшчэ зь Сярэднявечча назапасілі досьвед суіснаваньня ў межах адной дзяржавы, ад якой засталіся ў спадчыну рэлігійная талерантнасьць і падмуркі грамадзянскай супольнасьці. Таму, мяркуе ён, мы арганічным чынам належым да Эўропы, хаця гэта не заўжды ўсьведамляецца: нават высокаадукаваныя замежнікі часьцяком упэўненыя, што нашыя народы прынялі хрышчэньне ў XVII ст.

З гледзішча тэарэтычнай канфлікталегіі, Сярэдне-Ўсходняя Эўропа, часткаю якой мы зьяўляемся, — вельмі небясьпечны рэгіён. Пасьля распаду савецкай імпэрыі эўрапейскія навукоўцы прагназавалі ўзброеныя канфлікты паміж Украінай і Польшчай, Польшчай і Літвой, Літвой і Беларусяй. Для нас, нашчадкаў Вялікага Княства і Рэчы Паспалітай, гэткія прагнозы выглядаюць дзіка.

Сёлета ў Польшчы выйшла кніга нямецкага прафэсара Кляўса Цэрляка "Расея і Польшча". На думку аўтара, пагібель Рэчы Паспалітай, што сталася вынікам змовы Расеі і Прусіі, прывяла адначасова й да краху Сьвятарнай Рымскай Імпэрыі, якая будавалася на супрацоўніцтве паміж эўрапейскімі краінамі. З гэтага, на думку Цэрляка, пачалася трагедыя Нямеччыны, бо традыцыя ў гэтай краіне была тым самым зламаная, і адсюль усе няшчасьці — ад Бісмарка да Гітлера. Сёньня Эўропа зьвяртаецца да досьведу Сьвятарнай Рымскай Імпэрыі й Рэчы Паспалітай, займаючыся будаваньнем Эўразьвязу.

ВКЛ і Рэч Паспалітая традыцыйна разглядаліся як "слабыя", нежыцьцяздольныя дзяржаўныя ўтварэньні. Аднак Трэці статут Вялікага Княства, зацьверджаны 28 студзеня 1588 г., быў скасаваны толькі ў 1840-м. Прававое поле ў Вялікім Княстве было акрэсьленае вельмі выразна, і грамадзтва трымалася ў ягоных межах, нават калі дзяржава зьнікла. Гэта ўнікальны прыклад таго, як грамадзтва выявілася мацнейшым за дзяржаву й нейкі час пасьпяхова супраціўлялася ціску імпэрскай машыны. Палякі трымаліся яшчэ больш упарта. Менавіта таму яны яшчэ ў 1918 г. вызваліліся ад іншаземнага ярма і здабылі незалежнасьць.

Дый мы пачынаем з усё большай пэўнасьцю ўсьведамляць, што адзіны шлях да рэальнае незалежнасьці Беларусі — гэта адраджэньне грамадзянскае супольнасьці. Сёньня яна складаецца зь людзей, якія пачуваюцца нашчадкамі вялікай эўрапейскай традыцыі ды ўсведамляюць сваю адказнасьць за лёс краіны. Пераважная большасьць гэтых людзей размаўляе па-беларуску.

Менавіта на іх арыентуецца сёньня польская дзяржава ў сваёй усходняй палітыцы. Польскія навукоўцы, журналісты і дыпляматы дасканала разумеюць розьніцу паміж незалежным бела- рускім грамадзтвам, якое паўстае, і аўтарытарнай лукашэнкаўскай дзяржавай... **Юлія Андрэева** (Н. Н.)

# Яны як і мы...

Аляксандар ДУБРАВІН (Н.С.)

*Расія і Беларусь. Два суседы, два хаўруснікі, два вечныя гарапашнікі. Няшчасныя народы, злоўленыя ў пастку вялікадзяржаўнасці, ксенафобіі, сярэднявечча, дзікасці, алкагалізму і наркаманіі.*

Грамадствы, падзеленыя на два лагеры – дзяржаўных крымінальнікаў і бяспраўных шарагowых парабкаў. Тандэм рэваншысцкіх манархічна-камуністычна-шавіністычных сілаў. Аб'ядналая Залатая Арда, пастаўленая насуперак Аб'яднанай Еўропе. Сусветныя галадранцы з ракетнай ядзернай зброяй, якія жывуць за кошт продажу сваіх прыродных рэсурсаў, крадзяжу чужых тэхналогіяў і міласціны цывілізаваных краінаў. Дэгенератыўныя праваслаўныя фундаменталісты, якія не вераць у Хрыста, не трымаюцца Яго запаветаў, але будуюць цэрквы Яму і запальваюць там свечкі перад выявамі крывавых маскоўскіх цароў.

Беларусь і Расія. Дзвесце гадоў супольнага жыцця пасля акупацыі Расіяй народаў Вялікага Княства Літоўскага. З кім павядзешся, ад таго і набярэшся. Мы набраліся ад суседа выключнай, візантыйскай, напыхлівай, празмернай, "сьвяшчэннай" павагі да бюракратыі і татальнай, катастрафічнай непавагі да чалавека. Правы

асобы ў гэтым альянсе проста не ўважаюцца. Чалавек тут драбнейшы за жывёлу. Чалавек існуе выключна для дзяржавы, а дзяржава існуе для бюракратыі. А бюракратыя жыве сама для сябе, па сваіх сатанінскіх законах. Яна, як пякельная ненажэрная пачвара, праглынае мільёны людзей і выплёўвае іхнія косткі на сметнік.

За дзвесце гадоў прымусовай любві ў беларусаў сапраўды стала многа агульнага з расіянамі. Дзвесце гадоў супольнага існавання праз войны, голад, прыгнёт, хлусню, падзелы і передзелы, перасяленні, лагеры, расстрэлы, бальшавізм, калгасы, пяцігодкі аднолькава трывала разчалавечвалі нас. Гэтак трывала, што калі нават прыйшла да нас свабода выбару, Расія і Беларусь адразу не прынялі яе і ўзбіліся па інерцыі на старую дарогу.

Дзвесце гадоў – вялікі тэрмін для любога народа. За дзвесце гадоў да сусветнай славы падняліся Злучаныя Штаты Амерыкі. За дзвесце гадоў у свеце адбыліся тры навукова-тэхнічныя рэвалюцыі, прашумелі некалькі пакаленняў, згінулі і стварыліся дзесяткі дзяржаваў. Аднак дзвесце гадоў было вельмі мала, каб мы ўсе перасталі быць беларусамі. Хапіла невялічкай перадышкі ад вялікадзяржаўнай гістарычнай хлусні, каб нам зноў акрыяць, ачысціць генетычную памяць і паверыць у сваю будучыню як сучаснага еўрапейскага народа. Справа засталася за галоўным: крок за крокам арганізаваць жыццё краіны ў рэчышчы паступовага нацыянальнага і эканамічнага прагрэсу. Нам вельмі многа трэба зрабіць і нельга губляць час на непаразуменні. І менавіта ў гэтую пару да вярхоўнай улады ў краіне прарваліся антыбеларускія вялікадзяржаўныя шавіністычныя сілы са свядомай задачай знішчыць нацыянальны дзяржаўны Рэнесанс. Мы хутка адчулі, што бюракратыі абедзвюх дзяржаваў – Беларусі і Расіі - імгненна знайшлі паразуменне менавіта на гэтай глебе. Яны сапраўды аб'ядналіся і пачалі жывіць адно аднаго. Так неўзабаве ўзнікла ўяўнае кансалідаванае супроцьстаянне імкненню нашай нацыі да свабоды. Беларусы раптам апынуліся пад новай навалай усёй злучанай вялікадзяржаўнай бюракратыі расійскай імперыі. Хай нікога не падманвае новы імідж Расіі як дэмакратычнай краіны. Не бывае дэмакратычнай дзяржава, пабудаваная на інтарэсах бюракратыі, а не асобы. Такім чынам, беларускія патрыёты сёння павінны дакладна ведаць, супраць якога ворага, якой сусветнай пачвары яны выступаюць. Гэта, вядома, не Расія, не рускія і не расіяне — гэтакія ж, як і беларусы, ахвяры вялікадзяржаўнай імперскай бюракратыі, праваслаўнага фундаменталізму, татальнага прамывання мазгоў, хлуслівай гістарыяграфіі і дэмагогіі. Змагацца з гэтай пачварай магчыма толькі пры дапамозе нацыянальнай годнасці, свядомасці, яднання, веры ў перамогу дабра і праўды, калектыўнай волі да адраджэння беларускай дзяржавы і культуры. Неабходна пакідаць млявасць і паказваць ліцвінскі характар, калі ён яшчэ ёсць. Трэба зразумець, што беларусам няма чаго дзяліць паміж сабой, што трэба падтрымліваць адзін аднаго, быць аптымістамі, спрыяць высілкам, накіраваным да росквіту культуры і нацыянальнай лучнасці. (Магчыма гэтага зараз вельмі не стае нам, калі глядзець у вочы праўдзе). Цалкам магчыма, што гісторыя наканавала нам падарваць глыбінныя сілы вялікадзяржаўнага бюракратычнага расейскага шавінізму, як некалі расійска-японская вайна падарвала падмуркі раманаўскай манархіі, і паспрыяць вызваленню ад яго ўсіх народаў Расіі.

Глупствам будзе паддацца нам на прымітыўны нацыяналізм, да якога падштурхоўваюць беларусаў цяперашнія ўладныя бюракратычныя шавіністы, здзекуючыся з нацыянальных сімвалаў, мовы, культуры. Гэтыя прымітыўныя правакацыі, кшталту незразумелых выбухаў пад плотам пасольства Расіі, дэманстратыўная дыскрымінацыя ўсяго беларускага, кпіны з нашых нацыянальных лідэраў – усё гэта ад слабасці і крывадушнасці цяперашняга рэжыму. Яму няма чаго супроцьпаставіць імкненню народа да свободы і нацыянальнага адраджэння. Яму хочацца капітальна нацкаваць беларусаў на рускіх, а рускіх на беларусаў. Відаць, імпербюракраты хочуць злавіць новы шанец для сваёй алігафрэнічнай «інтэграцыі».

Расія і Беларусь. Мы і надалей будзем блізкімі суседзямі, таварышамі па супольнай і вельмі цяжкай гісторыі. Непазбежна мы будзем эканамічнымі хаўруснікамі. Але кожны ў сваёй гаспадарцы… Як добрыя прыяцелі…

# Дзень выбараў на Беларусі – 9-га верасьня…

Гэтую падзею - прыняцьцё Пастановы мы абмяркоўваем з дэпутатам Палаты прадстаўнікоў, былым супрацоўнікам Адміністрацыі прэзыдэнта Іванам Пашкевічам, які вылучыў альтэрнатыўны праект Пастановы, і патэнцыйным кандыдатам у прэзыдэнты Сямёнам Домашам… …

**RR:** - Першае пытаньне да Вас, спадар Пашкевіч: што на практыцы азначае прызначэньне прэзыдэнцкіх выбараў на 9 верасьня?

**І.П.:** - Гэта выкананьне палітычнага заказу дзейнай улады - усялякімі сродкамі ўстанавіць за дату прэзыдэнцкіх выбараў 9 верасьня. Чаму менавіта гэтая дата? Таму што яна ўжо сёньня не адпавядае прынцыпу Канстытуцыі й Выбарчага кодэксу: "Стварэньне роўных умоваў усім кандыдатам у прэзыдэнты". Таму што ужо празь лічаныя дні прэтэндэнты на прэзыдэнцкую пасаду павінны падаць сьпіс ініцыятыўных груп у ЦВК. Канечне, я добра разумею, што тымі, хто ўжо заявіў аб сваім удзеле ў выбарах, гэты сьпіс ня будзе закончаны - ня будзе падведзена рыса. Павінны зьявіцца новыя прэтэндэнты. Далей: я лічу, што, прыняўшы сёньня Пастанову ў рэдакцыі рабочай групы, парлямэнт зрабіў палітычную правакацыю супраць дзейнай улады - прэзыдэнта краіны й у цэлым - Рэспублікі Беларусь. Чаму супраць прэзыдэнта? Таму што выбары на аснове Пастановы, прынятай парлямэнтам, - гэта адназначна, на маю думку, - выбары, якія будуць прызнаныя нелігітымнымі. Гэта правакацыя супраць беларускага народу. Таму што будуць існаваць нелігітымны парлямэнт, нелігітымны прэзыдэнт, ізаляцыя Рэспублікі Беларусь, адсутнасьць замежных інвэстыцый і гэтак далей.

**RR:** - Што ж, такім чынам Вы, спадар Пашкевіч, сьцьвярджаеце: дата 9 верасьня, наколькі я Вас разумею, непрыймальная таму, што ставіць патэнцыйных кандыдатаў у няроўныя ўмовы, бо ня ўсе здолеюць зарэгістравацца да 15 чэрвеня. Цяпер я адрасую сваё пытаньне ў Слуцак, дзе знаходзіцца спадар Домаш: ці гатовы Вы перадаць на рэгістрацыю свае подпісы, подпісы свае каманды да 15 чэрвеня й ці задавальняе вас дата 9 верасьня?

**С.Д.:** - Што да мяне й маёй каманды, то мы гатовыя падаць да вызначанае даты сьпісы ініцыятыўнай групы на рэгістрацыю. А датычна канкрэтнай даты – 9-га верасьня, то, акрамя сказанага, я хачу дадаць: гэты дзень прызначаны ўладамі найперш таму, каб накіраваньне студэнтаў на сельгасработы, якія заўсёды праводзяцца ў верасьні, як мага скарыстаць дзеля фальсыфікацыі вынікаў гэтых выбараў. Студэнтаў жа ж у такім выпадку змусяць, пагоняць прагаласаваць папярэдне, а потым застанецца пэўная колькасьць дзён для таго, каб улады зрабілі з вынікаў галасаваньня тое, што ім патрэбна. І я лічу, што гэта першы й самы магчымы варыянт фальсыфікацыі выбараў. Улады могуць гэта аспрэчыць толькі гэтакім чынам: калі яны возьмуць на сябе абавязак накіроўваць студэнтаў на сельгасработы пасьля 9-га - напрыклад, дзесятага верасьня. А традыцыйна з 4-га ці 5-га верасьня на сельгаспрацы няхай бы ехалі навучэнцы, якія яшчэ зьяўляюцца непаўналетнімі й ня будуць удзельнічаць у выбарах. І далей: я хачу сказаць, што названая сёньня дата - у першую чаргу, вылічана гэтак, каб яе скарыстаць для прадстаўніка цяперашняе ўлады на гэтых выбарах.

**RR:** - Пажаданьне да сёньняшняга кіраўніка дзяржавы, дарэчы, вылучаеце ня толькі Вы, спадар Домаш. Спадар Пашкевіч, Вы прапаноўвалі Аляксандру Лукашэнку шэраг ініцыятываў, якія маглі б, так бы мовіць, злагодзіць перадвыбарчую кампанію: напрыклад, пайсьці ў адпачынак, улучыць давераных кандыдатаў у склад выбарчых камісіяў, правесьці перамовы з апазыцыяй і гэтак далей. Гэта даволі сьмелыя з Вашага боку прапановы. Ці верыце Вы ў тое, што гэтыя прапановы будуць прынятыя?

**І.П.:** - Я ўпэўнены, што прэзыдэнт краіны добра разумее, чым можа абярнуцца для яго такая пастанова. І я думаю, упэўнены нават, што ён зробіць такі ж самы крок, які ён зрабіў напярэдадні парлямэнцкіх выбараў. Мяркую, што ён прыме дэкрэт, і ў гэтым дэкрэце, мабыць, і знойдуць месца некаторыя з маіх прапановаў.

**RR:** - Спадар Домаш, ці верыце Вы ў тое, што ўлада зможа зьмякчыць нейкім чынам хаду перадвыбарчае кампаніі, ці верыце Вы, што некаторыя прапановы апазыцыі будуць прынятыя кіраўніком дзяржавы?

**С.Д.:** - У мяне такіх спадзяваньняў няма. Я думаю, што наўрад ці ўлада на гэта пойдзе, ці цяперашняе кіраўніцтва. Я думаю, што яны будуць усё рабіць, каб выкарыстаць гэту сытуацыю дзеля сваіх мэтаў.

**RR:** - Спадар Пашкевіч, вядома: што зроблена тое зроблена. Вы гаворыце, што Пастанова прымалася ў сьпешцы, практычна без абмеркаваньня. Скажыце, калі ласка, наколькі тое, як прымалася гэтая Пастанова, у пэўным сэнсе ілюструе паводзіны Аляксандра Лукашэнкі на прэзыдэнцкіх выбарах? Ці можам мы ўжо цяпер меркаваць, як будзе паводзіць сябе кіраўнік дзяржавы на маючых адбыцца выбарах?

**І.П.:** - Па-першае, і Лукашэнка, і ўсе астатнія кандыдаты павінны будуць дзейнічаць у межах прынятай Пастановы, зыходзіць з таго, што там напісана. Па-другое, я лічу: што дзейны прэзыдэнт краіны, які разьлічвае на перамогу ў наступных выбарах, добра ведае, чым для яго асабіста можа закончыцца правядзеньне вось гэтых выбараў на аснове гэтае Пастановы. Таму я й падкрэсьліваю: мне здаецца, што ён павінен прыняць - магчыма, праз месяц ці бліжэйшым часам - дэкрэт, які дапаўняў бы Выбарчы кодэкс. Перадусім, у пытаньнях рэгістрацыі ці допуску назіральнікаў з боку зарэгістраваных кандыдатаў у прэзыдэнты у ЦВК, у тэрытарыяльныя ўчастковыя камісіі. І думаю - яшчэ раз падкрэсьліваю: ён будзе шукаць выйсьце. Таму што дэпутацкая большасьць, якая сёньня падтрымлівае дзейную ўладу, зрабіла кіраўніцтву краіны вельмі дрэнны падарунак, мядзьведжую паслугу.

**RR:** - Паводле некаторых назіральнікаў, гэтая прынятая Пастанова ўзгаднялася з Адміністрацыяй Лукашэнкі. Хачу ў Вас запытацца як у чалавека, які працаваў з Аляксандрам Лукашэнкам: Вы, напэўна добра ведаеце, што стыль паводзінаў лідэр краіны ня надта любіць мяняць. Ён не перастае рабіць нападкі на кіраўніка Кансультатыўна-назіральнай групы АБСЭ й працягвае цкаваньне адносна яго. Са згоды Аляксандра Лукашэнкі, ці зь ягонай падачы, прымаецца памянёная Пастанова, - і ў пэўным сэнсе гэта ўсё ілюструе стыль паводзінаў кіраўніка дзяржавы на прэзыдэнцкіх выбарах. Ці не падаецца Вам, што ўнутрана Аляксандар Лукашэнка пагадзіўся ўжо: будучы кіраўнік дзяржавы, калі ім стане зноў ён, ня будзе прызнаны за лігітымнага? Прынамсі, гэтак будуць лічыць заходнія дзяржавы.

**І.П.:** - Я пагаджаюся з Вашай думкай, на жаль, для мяне, на жаль: Аляксандар Лукашэнка зрабіў для сябе высновы, што ён ня будзе прызнаны, ужо некалькі месяцаў таму. І ён - на жаль таксама й для сябе, і для дзяржавы - паставіў за задачу нумар адзін: усялякімі сродкамі атрымаць перамогу. А потым, ведаючы ягоны стыль і ягоны характар, як ён калі-нікалі кажа: "Пасьля перамогі паглядзім, як далей сябе паводзіць"...

**RR:** - Дзякуй, спадар Пашкевіч. А я зноў адрасую пытаньне да спадара Домаша. Вы як патэнцыйны кандыдат ці гатовы да такога фармату правядзеньня выбарчай кампаніі, пра які вось цяпер казаў наш суразмоўца?

**С.Д.:** - Я думаю, што ў нашых умовах нічога не застаецца, як прымаць іх. Але ж мы можам прапанаваць, напрыклад, таму ж Лукашэнку, калі ён хоча прадэманстраваць, што ўсё ж стаіць на пазыцыях правядзеньня больш-менш дэмакратычных і празрыстых выбараў, зрабіць хоць нейкі крокаў, якія сталіся б доказам ягонага гэткага жаданьня. Першае: ён павінен на гэты час скласьці паўнамоцтвы прэзыдэнта й прыняць роўны статус

з усімі магчымымі кандыдатамі дзеля аднолькавых умоваў правядзеньня агітацыйнай кампаніі. Другое: ні ў якім выпадку ён не павінен выкарыстоўваць той свой, як называюць, адміністратыўны рэсурс, асабліва выхад на сродкі масавай інфармацыі, у першую чаргу -- электронныя. Калі ён гэта зробіць, - значыць можна будзе яшчэ больш-менш верыць, што ён дэманструе дэмакратычныя падыходы да будучых выбараў. Калі гэтага не адбудзецца, - адназначна ўсталюецца перакананьне яшчэ адзін раз нашага грамадзтва й міжнароднае грамадзкасьці, што ён хоча ўсялякім, усялякім спосабам зрабіць вынік на сваю карысьць. Такім чынам, калі можна гэтак выказацца, прысвоіць вынікі гэтых выбараў і абвясьціць сябе прэзыдэнтам. І калі ён будзе гэта рабіць, канечне, можна ставіць пытаньне наагул аб яго легітымнасьці. **(Radyjo Racyja)**

********************************************

## *НАМ ПІШУЦЬ...*

### Ансамбль "Грамніцы" ў Вялікай Брытаніі.

На пачатку траўня 2001 году ў Вялікай Брытаніі прабываў вакальна-танцавальны ансамбль "Грамніцы" з Беларусі. Ансамбль прыехаў на запросіны валійскай дабрачыннай арганізацыі пад назовам "Convoy of Hope" — "Канвой Надзеі" і Ратарыйных клюбаў.

Ратарыйныя клюбы ("The Rotary Clubs") былі заснаваныя ў 1905 г. у ЗША. Першапачатковай мэтай было падтрымліваць і ўспамагаць грамадзкія паслугі. Ад таго часу клюбы пашырыліся па ўсім сьвеце і іхнія мэты таксама пашырыліся і зьмяніліся.

Любы чалавек можа належаць да Ратарыйнага клюбу, але так ужо сталася, што да іх належаць пераважна людзі з сярэдняй клясы, — прадпрымальнікі, прафэсыйныя асобы г. зн. людзі, якія стараюцца памагчы другім ма- тэрыяльна, фінансава. Сваёй дабрачыннай працай Ратарыяне памагаюць пацярпелым ад паводкі, землятрусаў, розных прыродных ката- строфаў.

Ангельскае слова "rotary" ёсьць прыметнікам і азначае "прыводзіць у кругавы рух", круцицца. А "by rotation" азначае ужо, між іншым, на перамену. Так як на пачатку існаваньня Ратарыйных клюбаў сябры гасьцілі адзін у другога, на перамену, — "by rotation", адсюль і назоў "The Rotary". Сымбалем Ратарыйных клюбаў ёсьць зубчатае кола.

Наступствы Чарнобыльскай трагэдыі ў 1986 годзе не асталіся абыякавымі для Ратарыянаў. Адным з вельмі актыўных цэнтраў, якія памагаюць ахвярам Чарнобыля — Кардыф (Cardiff), сталіца аліі. Там утварылі спэцыяльную арганізацыю пад назовам "Канвой Надзеі", якая памагае для Босьні, Косава, Польшчы, Беларусі і так далей. Між іншым, "Канвой Надзеі" арганізаваў хоспіс у Менску. Сябры Канвою Надзеі і Ратарыяне ў Кардыф зьбіраюць мэдыкамэнты ды розныя іншыя рэчы, якія пасьля перавозяць грузавікамі ў Беларусь. Арганізацыі Канвой Надзеі памагаюць таксама Ратарыйныя клюбы ў іншых месцах Англіі. Варта таксама ўспомніць, што ў Кардыф ёсьць яшчэ і другая арганізацыя пад назовам "Chernobyl Children Cancer Care Cardiff".

На пачатку гэтага траўня ансамбль "Грамніцы" з Менску гасьціў у Вялікай Брытаніі і даваў канцэрты ў гарадох Кардыф, Портскаўль. Ньюпорт, Рункорн і Ньюкастл-андэр-Ляйм. Гэта была свайго роду падзяка для арганізацыі "Канвой Надзеі" і "Ратарыянаў" за іх дапамагу ахвярам Чарнобыля. Ансамбль складаўся з 28-мі асобаў і гасьціў у Вялікай Брытаніі 10 дзён. Кіраўніком ансамбля — прафэсар Уладзімір Зэневіч з Беларускага Ўнівэрсытэту Культуры ў Менску. У ансамбль належаць студэнты, прафэсыйныя музыкі і сам прафэсар.

16 траўня ў горадзе Ньюкастл-андэр-Ляйм "Грамніцы" далі канцэрт беларускіх народных песьняў, царкоўных сьпеваў ды розных іншых сьпеваў і танцаў. Выканаўцам акампанаваў акестр з чатырох асобаў: цымбалістка, дзьве дзяўчыны на скрыпках і гарманіст. Часам памагалі прафэсар Зэневіч на ручным бубне і сябра ансамблю на беларускай валынцы. Інструмэнт валынка падобны да шкоцкай 'бэгпайп-bagpipe'. Ангельцы напэўна ня ведалі, што на Беларусі ёсьць такі інструмэнт.

Вельмі добра запавядаў па-ангельску спадар прафэсар У. Зэневіч. Акрамя гэтага, ён, як сапраўдны кіраўнік-прафэсыянал яшчэ бубніў, сьпяваў і дырыгаваў хорам...

Усе песьні былі на беларускай мове. На канцэрт, акрамя ангельцаў, прыйшлі і мясцовыя беларусы. Шкода, што арганізатары не паведамілі заранья мясцовую прэсу, ТВ. і а. А. Сідарэвіча.

Музыка, сьпевы і танцы былі на вельмі высокім мастацкім узроўні. Дацанялі гэта ўсе прысутныя доўгімі апляскамі. На просьбу а. Сідаровіча, хор знакаміта засьпяваў "Люблю наш край..."

Варта зазначыць, што ўсе ўдзельнікі ансамблю былі цудоўна апранутыя ў living рознастайныя беларускія касьцюмы. Гэта надавала яшчэ больш красы для прыгожых і стройных дзяўчат.

Нашы земляні прывезьлі з сабой многа сувэніраў, якія можна было купіць. Гэта вырабы з дрэва, сьцякла, льну, алькагольныя напіткі і інш. Усё было высокай якасьці, а цэны нізкія. З такой якасьцю і цэнамі вырабы могуць лёгка канкураваць на Захадзе.

У групе была намесьніца старшыні Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны спадарыня Дюдміла Дзіцэвіч.

Выпадае таксама зазначыць, што ансамбль "Грамніцы" ўдзельнічаў на міжнародных фэстывалях у Бельгіі, Нямеччыне, Польшчы, Расеі і Украіне. І напэўна пасьпяхова...

*М. Швэдзюк* (Англія).

* * * *

### Каляднае сьвяткаваньне ў Манчэстары, Англія.

Дзеля далейшай мэты аб'яднаньня абедзьвух беларускіх праваслаўных парафіяў у Манчэстары, 7.01.2001 г. вернікі прыйшлі ў царкву Жыровіцкае Божае Маці, каб разам удзельнічаць у урачыстай сьвятой Каляднай літургіі. Сьвятую літургію служылі супольна два сьвятары. Прыгожа сьпяваў хор. Усё адбылося ўзьнёсла і ўрачыста. І як прынята літургія закончылася адсьпяваньнем рэлігійнага гімну "Магутны Божа..."

Пасьля літургіі ўсіх прысутных запрасілі ў прыцаркоўную залю на супольны абед. Сталы былі застаўлены рознаякай смачнай ежай і напіткамі. Тут трэба падзякаваць усім жанчынам, якія прычыніліся да прыгатаваньня абедупрыняцьця. Падчас абуду былі прамовы і падзякі...

Гэта было ўжо другое супольнае спатканьне дзьвюх парафіяў у Манчэстары, і было спадзяваньне, што аб'яднаньне парафіяў адбудзецца ў блізкай прышласьці. На жаль, так ня сталася...

Пры гэтым трэба ўспомніць, што цяпер у Англіі знаходзяцца тры беларускія праваслаўныя сьвятары, і пяць беларускіх праваслаўных парафіяў.

*М. Швэдзюк* - Англія.

***************************

## Усякая-Усячына...

Чым далей заходзіць русіфікацыя Беларусі, тым бліжэйшай стаецца нам Расія. Прыкладна такі аргумэнт высоўвае работніца „Беларускай думкі" Ларыса Якавенка: „*Трудно понять ратующих за союз с кем угодно — Америкой, Европой, но только не с Россией, близкой нам по духу, и по родственным связям, и по общей истории, которую невозможно сбросить со счетов или переписать наново*".

Беларускія ідэолягі проста ня могуць без Расіі. Перш за ўсё яна патрэбная ім для таго, каб схаваць уласную нікчэмнасьць. Безь яе яны — купка параноікаў, зь ёй — адзіная сям'я, якая зноў можа запалохваць увесь сьвет атамнай зброяй.

Вынятак з артыкулу В. Булгакава "Ідэалёгія Лукашэнкаўскага рэжыму".

%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%%

Беларускі раённы цэнтар Стоўпцы абвешчаны Горадам Міру. Рашэньне аб наданьні гэтага статусу належыць вядомаму індыйскаму філёзафу й прапагандысту Шры Чын Мою. Уручэньне сэртыфікату й падпісаньне адпаведнай Дэклярацыі адбылося падчас наведаньня Стоўпцаў удзельнікамі паходнай эстафэты "Бег Міру Дом-Адзінства Шры Чын Моя". Паводле прадстаўніка Беларускага фонду міру, адным з аргумэнтаў на карысьць наданьня Стоўпцам ганаровага статусу зьяўляецца яго блізкае разьмяшчэньне ад геаграфічнага цэнтру Эўропы. Такім чынам, Беларусь далучылася да 140 краінаў сьвету, якія маюць мясьціны з адмысловым званьнем Міру.

# Пераможцы й пераможаныя

22 чэрвеня 1941 г. Нямеччына пачынала вайну супраць СССР, тым часам яе кіраўнікі нават ня думалі, што прайграюць. Прайграўшы вайну, Нямеччына паўстала з руінаў, адрадзіла сваю веліч, стала найзаможнейшаю краінаю Эўропы. Мы ж засталіся - найбяднейшаю. У апошняй вайне саветы, перамогшы Нямеччыну, сходалі самых сябе. Але прызнаць гэта ніхто пакуль не наважыўся.

"Тое, як мы жывём, не залежыць ад вайны. Гэта залежыць ад сыстэмы. У Нямеччыне дэмакратычная сыстэма, а ў нас гэтае сыстэмы няма", - мяркуе Алесь Карніенка, лідэр Моладзі Аб'яднанае грамадзянскае партыі. Зь ім салідарны шмат хто. Немалады мянчук мяркуе, што сыстэма вызначае лад жыцьця: "У нас няма зваротнае сувязі, сыстэма існуе сама па сабе. На "ўваходзе" ёсьць нездавальненьне, а наша "адміністрацыя" на гэта не рэагуе. Адзінае выйсьце - гэта час. Трэба стагодзьдзі, а можа й тысячагодзьдзі, каб нешта зьмяніць". "Мы ня горшыя за немцаў, мы нават лепшыя, проста ў нас няправільна ўсё арганізавана. Не даюць нам свабоды, стрымліваюць усе нашыя памкненьні - і народ баіцца. Улада ў нас гэткая, і яе трэба мяняць!", - сказала 50-гадовая жыхарка сталіцы. Зь ёю згадзіўся й 20-гадовы студэнт: "Улада ў нас гэткая, што мы дрэнна жывём. У Нямеччыне іншая ўлада - ім лягчэй. У нас дыктатура цяпер. Каб перамагла Нямеччына, мы цяпер былі б "немцамі". А так нас перарабляюць на "расейцаў". Я не хачу быць "расейцам", а мяне змушаюць ім быць практычна гвалтам, нават выбару не пакідаюць - "аб'яднаньне", "аб'яднаньне"..." "Калі народ ня скажа цяперашняму прэзыдэнту "не" - нас анічога не чакае!" - перакананы сярэдняга веку жыхар сталіцы.

Вэтэран апошняе вайны захапляецца жывучасьцю нямецкае нацыі: "Нямеччыну ж былі разьбілі дазваньня, а яны паўсталі! І жывуць яны лепей, як мы. Наш народ сам вінаваты ў сваіх бедах". Значыцца выйсьце з тупіку - у нас саміх.

~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~

# Ня стой і дрыжы, а скачы і плыві...

Каб зрабіць у свеце што-небудзь годнае, нельга стаяць на беразе, дрыжаць і разважаць пра халодную ваду і небяспекі, якія падпільноўваюць плыўцоў. Трэба скакаць у ваду і выплываць. Сіднэй Сміт

Абвешчаны дзень прэзідэнцкіх выбараў у нашай краіне. Збор подпісаў за кандыдатаў паступова набірае абароты, а перад трацінай выбаршчыкаў паўстае выбар іншага характару: ісці альбо не ісці на выбары? Як паказвае практыка апошніх парламенцкіх выбараў, толькі двое з трох выбаршчыкаў прыходзяць на выбарчыя ўчасткі для выказвання свайго канстытуцыйнага права голасу.

Успамін пра грамадзянскі абавязак шмат хто ўспрымае з усмешкай, знайшлі, маўляў, аргумент. Неабходнасць выказаць уласную думку ў народа адсутнічае з некалькіх прычынаў. Першая - **боязь.** Існуюць нават афарызмы: у нашым грамадстве паасобку ўсе супраць, але разам - за, альбо: выбары - гэта перапіс незадаволеных. Другой прычынай з'яўляецца лянота (галоўная сацыяльная хвароба ўсіх славянаў). А трэцяй -- прадузятае перакананне «адзін у полі ня воін».

Відаць, трэба пачынаць з самога сябе. Паказаць, што лічыш сябе адказным за сваю будучыню і будучыню сваіх дзяцей. Менавіта адказнасць за будучыню можа быць тым важкім фактарам, што вырашыць праблему неабходнасці браць удзел у выбарах Прэзідэнта. Ня трэба, у адваротным выпадку, наракаць на ўладу, якую выбіралі іншыя.

Ці варта ісці на павадку ў тых падбухторшчыкаў, якія заклікаюць не ісці на выбары? У іх адно імкненне: каб маўклівая згода працягвалася, згода на такое жыццё, як зараз у нас. Але калі ты разумны чалавек, дык няўжо хочаш так жыць і надалей?

Выказаць свае адносіны да існуючых палажэнняў, падмацаваць надзею на лепшую будучыню ў кожнага ёсць магчымасць толькі раз у пяць гадоў. Менавіта на выбарах ад кожнага з нас залежыць, па якім шляху будзе развівацца краіна, у якой мы жывем.

А перашэптвацца па кутах, выказваць свае думкі на кухні -- гэта ні да чаго не прывядзе. Толькі пасля таго, як прагаласуеш на выбарчым участку, ты зможаш сказаць: «Я зрабіў усё, што ад мяне залежала». **Раман Субат**, студэнт (Пагоня)
~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~~